20 снежня 2019 | № 47 (658)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Спіс ключавых асобаў у справе зніклых**

**Стар. 2**



# Пытанне не ў тым, чаму цяпер, а ў тым, чаму не раней



Аксана КОЛБ

**Як вядома, 16 снежня Deutsche Welle апублікавала відэа, у якім Юрый Гараўскі, які назваўся байцом спецыяльнага атраду хуткага рэагавання (САХР), распавёў, як удзельнічаў у выкраданні і забойстве апанентаў Аляксандра Лукашэнкі 20 гадоў таму.**

Тады ў Беларусі зніклі апазіцыянеры Юрый Захаранка, Віктар Ганчар і Анатоль Красоўскі. Таксама быў апублікаваны тэкст падрабязнага інтэрв'ю з Гараўскім.

Гараўскі сцвярджае, што апазіцыянераў выкралі і забілі байцы спецатрада хуткага рэагавання (САХР) унутраных войскаў МУС Беларусі. Сярод гэтых байцоў быў і сам Юрый Гараўскі. Загад пра затрыманне байцам аддаваў стваральнік САХР падпалкоўнік Дзмітрый Паўлічэнка. Ён жа, як заяўляе Гараўскі, і застрэліў палітыкаў і бізнесоўца. «Усе загады аддаваліся ў вуснай форме. Ніякіх пісьмовых пацверджанняў, відэазапісаў, пратаколаў — нічога такога няма», — кажа Гараўскі.

Гараўскі сцвярджае, што можа расказаць усё, што яму вядома, пад прысягай у судзе. Пры гэтым у адказах Гараўскага на некаторыя пытанні DW адчувалася недаказанасць. Так, не да канца зразумела, як менавіта яму ўдалося збегчы з Беларусі, чым ён займаўся пасля звальнення з САХР. Аднак DW адзначае, што Юрый Гараўскі прадаставіў ім арыгіналы і копіі дакументаў, якія пацвярджаюць яго асобу і гісторыю. Пасля праверкі паведамленых ім фактаў — наколькі гэта было магчыма, — і прымаючы пад увагу іх значнасць, DW вырашыла апублікаваць інтэрв'ю.

Адразу пасля публікацыі загучалі абвяржэнні з боку тых, каго абвінавaціў Гараўскі, версіі і развагі наконт таго, чаму гэта інтэрв'ю з'явілася менавіта цяпер, і шмат іншых здагадак, версій і меркаванняў.

Напрыклад, Алесь Бяляцкі, старшыня Праваабарончага цэнтра «Вясна», лічыць, што агучаная Гараўскім інфармацыя патрабуе абавязковага расследавання. І што бяздзейнасць Следчага камітэта ў гэтай сітуацыі можна будзе расцэньваць як жаданне ўладаў схаваць страшную праўду.

У адказе на зварот «Радыё Свабода» Следчы камітэт паведаміў: «Пакуль мы ў стадыі высвятлення. Калі інфармацыя будзе падрыхтаваная, мы яе апублікуем».

У Генеральнай пракуратуры «Свабодзе» паведамілі, што рэагаваць на новыя факты, агучаныя ў апублікаваным нямецкімі журналістамі фільме, можа Следчы камітэт. Гэта абумоўлена тым, што справа аб знікненні Ганчара, Захаранкі і Красоўскага па-ранейшаму расследуецца.

«Справа не закрытая, яна расследуецца, — паведаміў прадстаўнік Генеральнай пракуратуры Дзмітрый Брылёў. — Уся новая інфармацыя, у тым ліку публікацыі ў СМІ, следчаму цікавыя. Яны могуць быць разгледжаныя. Пазіцыю наконт гэтага павінен фарміраваць Следчы камітэт». МУС на той момант для каментароў быў недасяжны.

«Яго словы трэба прымаць за праўду. Можа, ён не ўсё бачыў і не ўсё ведае. Гэта трэба ўлічваць. Ён на сябе такі цяжар узяў, я думаю, што ён за яго годна адкажа. Гэта не жарты, не калі рыбу скраў у краме», — кажа экс-начальнік СІЗА № 1 Алег Алкаеў.



Фота www.spring.org

На думку Алега Волчака, які ўзначальваў грамадскую камісію расследавання знікненняў экс-міністра ўнутраных справаў Юрыя Захаранкі, апазіцыянера Віктара Ганчара і ягонага сябра Анатоля Красоўскага, Юрый Гараўскі пацвярджае звесткі пра расстрэльны пісталет, вядомыя са словаў Алега Алкаева, а таксама былых супрацоўнікаў пракуратуры.

Цалкам зразумела, што Паўлічэнка абвяргае агучаную Гараўскім інфармацыю і кажа, што той ніякага дачынення да САХР не мае. Юрый Сівакоў, які кіраваў унутранымі войскамі ў 1999–2000 гадах, назваў прызнанні Гараўскага ўкідам напярэдадні перамоваў Лукашэнкі і Пуціна.

Дарэчы, не адзін Сівакоў лічыць гэта інтэрв'ю калі не фабрыкацыяй, то адмыслова зробленым для ціску на Лукашэнку. Гэта версія можа, канечне, існаваць, але мала хто з сур'ёзных аналітыкаў будзе яе прытрымлівацца.

Так, безумоўна, гэта інтэрв'ю можна разглядаць як спробу прыстрашыць Лукашэнку магчымым злівам іншай жахлівай інфармацыі. І што? Нібыта ніхто ў краіне ці за яе межамі не ведае, хто такі А. Лукашэнка і на што ён здольны?

Можна інтэрв'ю Гараўскага разглядаць і як спробу давесці: бачыш, мы ўсё гэта ведаем і мы цябе прымаем, але цывілізаваная Еўропа не прыме. Але няўжо хтосьці яшчэ верыць, што кіраўніку Беларусі хочацца ў цывілізаваную Еўропу?

Таму, калі сапраўды нехта прыспешыў выхад гэтага інтэрв'ю ў спадзяванні на патрэбны подпіс пад дакументамі на сустрэчы з Пуціным, — ён памыліўся.

Асабіста мяне больш хвалюе пытанне, не чаму цяпер з'явіліся прызнанні экс-байца, а чаму да гэтага часу, пры ўсёй інфармацыі і доказнай базе, тыя, хто мае дачыненне да справаў зніклых, не пакараныя судом? Хаця, канечне, гэта пытанне можна лічыць рытарычным. Адказ на яго відавочны…

«Пры цяперашняй уладзе мы з гэтай інфармацыяй мала што можам зрабіць. Мяне трасе, калі ўсё гэта чытаю, а нічога не магу зрабіць. Спрабую нешта прыдумаць. Вось ён кажа, што можа ўказаць месца, дзе забілі Ганчара і Красоўскага. І што, калі мы туды прыедзем, што будзе? Хто нам дазволіць туды прайсці? І ўвогуле, я перакананая, што іх целаў ужо не знойдзеш», — разважае Святлана Завадская.

Аднак яшчэ больш мяне хвалюе тое, што такіх, як Гараўскі, Паўлічэнка ды іншыя, хапае ў Беларусі. Яны выконвалі і выконваюць любыя загады, і нават калі пасля раскажуць пра свае злачынствы, будуць рабіць гэта будзённа і без пакутаў сумлення. Гэтыя людзі атрымліваюць добры заробак з бюджэту, то-бок з нашых з вамі кішэняў. Яны ці ўжо атрымалі, ці абавязкова атрымаюць добрую пенсію, якая будзе ў разы большая, чым наша з вамі. І заўсёды на любыя папрокі ў парушэнні закона будуць адказваць: «Я толькі выконваў загад».

**Працяг тэмы на стар. 2 »**

# Спіс ключавых асобаў у справе зніклых

**Тое, што агучыў баец беларускага «эскадрона смерці» ў інтэрв'ю Deutsche Welle пра ўдзел у выкрадanні і забойстве апанентаў Лукашэнкі 20 гадоў таму, падняло хвалю абмеркаванняў і версій.**


Фота www.blog.zolle.ru

**Пасля змяшчэння Паўлічэнкі ў турму КДБ Мацкевіч і Бажэлка прыйшлі да Лукашэнкі з прапановай арыштаваць Віктара Шэймана як магчымага замоўцу палітычных знікненняў, але самі апынуліся ў адстаўцы**

Мы ж прапануем спіс ключавых асобаў, звязаных з расследаваннем у справе зніклых Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Дзмітрыя Завадскага, які падрыхтавала «Радыё Свабода» (спіс скарочаны, цалкам можна прачытаць на сайце радыё).

**Алкаеў Алег, былы начальнік СІЗА № 1 МУС Беларусі, кіраўнік расстрэльнай каманды**

У 2001 годзе Алкаеў заявіў, што ў 1999 годзе на загад тагачаснага кіраўніка МУС Юрыя Сівакова ён азнаёміў з працэдурай выканання смяротнага прысуду камандзіра спецатраду хуткага рэагавання ўнутраных (САХР) войскаў МУС Дзмітрыя Паўлічэнку.

У тым жа годзе Алкаеў двойчы на асабістае ўказанне міністра выдаваў спецыяльны пісталет ПБ-9, прызначаны для выканання смяротных прысудаў. Пазней, супаставіўшы даты, ён выказаў здагадку, што з гэтага пісталета былі забітыя Юрый Захаранка, Віктар Ганчар і Анатоль Красоўскі. Алкаеў апублікаваў у апазіцыйным друку інтэрв'ю і дакументы.

Алкаеў атрымаў у 2002 годзе палітычны прытулак у Германіі.

**Бажэлка Алег, былы генпракурор Беларусі**

Тагачасныя генпракурор (1996–2000) разам з кіраўніком КДБ Уладзімірам Мацкевічам санкцыянавалі затрыманне Дзмітрыя Паўлічэнкі, якога падазравалі ў выкраданні зніклых. Паводле некаторых крыніц, Паўлічэнка быў дапытаны высокапастаўленымі пракурорскімі работнікамі, было высветлена, што ён меў дачыненне да гэтых злачынстваў. У сувязі з чым Алег Бажэлка быў вымушаны папрасіць у калегаў з Расіі спецабсталяванне для пошуку пахаваных целаў.

Пасля змяшчэння Паўлічэнкі ў турму КДБ Мацкевіч і Бажэлка прыйшлі да Аляксандра Лукашэнкі з прапановай арыштаваць тагачаснага сакратара Савета бяспекі Віктара Шэймана як магчымага замоўцу палітычных знікненняў, але замест гэтага апынуліся самі ў адстаўцы. Алег Бажэлка больш не вярнуўся на дзяржаўную працу. Паводле розных крыніцаў, ён жыве ў Расіі.

**Байкова Святлана, былая следчая пракуратуры**

Святлана Байкова — першая следчая ў справе знікнення Юрыя Захаранкі. Яна дапытала некалькі сведак, якія бачылі, як 7 траўня 1999 года да Юрыя Захаранкі падышлі двое мужчын і запхнулі ў машыну цёмна-сіняга колеру. Байкова вяла справу два гады, пасля чаго расследаванне перадалі следчаму Уладзіміру Чумачэнку.

Байкова спецыялізавалася на расследаванні крымінальных справаў аб цяжкіх гвалтоўных злачынствах, адной з першых у Беларусі пачала расследаваць крымінальныя справы паводле артыкулу «Бандытызм». Пасля пераводу ў Генеральную пракуратуру яна стала расследаваць «карупцыйныя» справы, у якіх асуджаліся супрацоўнікі МУС, КДБ і мытні.

У сакавіку 2010 года была арыштаваная КДБ праз абвінавачванне ў злачынствах супраць правасуддзя, а таксама супраць інтарэсаў службы. Была асуджаная на два гады абмежавання волі без накіравання ва ўстановы закрытага тыпу.

**Ігнатовіч Валерый, Малік Максім, Гуз Аляксей і Савушкін Сяргей — асуджаныя ў справе аб знікненні Змітра Завадскага**

14 сакавіка 2002 года ў справе аб выкраданні Змітра Завадскага былі асуджаныя былыя супрацоўнікі спецатраду міліцыі «Алмаз». Мінскі абласны суд прызнаў вінаватымі і асудзіў былых міліцыянтаў Валерыя Ігнатовіча і Максіма Маліка на пажыццёвае зняволенне, былога курсанта акадэміі МУС Аляксея Гуза на 25 гадоў зняволення, беспрацоўнага, раней судзімага Сяргея Савушкіна на 12 гадоў.

Паводле абвінавачання, матывам злачынства стала помста: нібыта Завадскі публічна абвінаваціў Ігнатовіча ва ўдзеле ў чачэнскай вайне на баку баевікоў. Асуджаныя не прызналі сваёй віны ні ў адным з эпізодаў.

**Мацкевіч Уладзімір, былы старшыня КДБ Беларусі**

Улістападзе 2000 года тагачасны старшыня КДБ генерал-лейтэнант Уладзімір Мацкевіч разам з генпракурорам Алегам Бажэлкам санкцыянавалі арышт камандзіра спецчасткі ўнутраных войскаў № 3214 Дзмітрыя Паўлічэнкі. Пасля ўмяшання Лукашэнкі Дзмітрый Паўлічэнка быў вызвалены, а Мацкевіча і Бажэлку адправілі ў адстаўку.

Пасля адстаўкі Мацкевіча прызначылі пасалом у Югаславію, а потым у Сербію і Чарнагорыю. Адстаўлены з гэтых пасадаў у 2008 годзе, Мацкевіч вярнуўся ў Мінск, потым пераехаў у Маскву, дзе працаваў дарадцам гендырэктара буйной расійскай кампаніі. Потым быў дарадцам кампаніі «Газпромнефть» у Мінску.

**Лапацік Мікалай, былы начальнік крымінальнай міліцыі МУС**

У 2001 годзе ў выніку следства генерал-маёр міліцыі Мікалай Лапацік падаў рапарт на імя тагачаснага міністра ўнутраных справаў Уладзіміра Навумава, у якім абвінаваціў Віктара Шэймана ў тым, што той даў загад на знішчэнне Юрыя Захаранкі. Паводле рапарту, загад выконваў Дзмітрый Паўлічэнка пры дапамозе Юрыя Сівакова, які забяспечыў групу пісталетам ПБ-9, часова забраным з мінскага СІЗА № 1.

**Навумаў Уладзімір, былы міністр унутраных справаў Беларусі**

Былога кіраўніка службы аховы прэзідэнта, экс-міністра ўнутраных справаў Беларусі (25 верасня 2000 — 6 красавіка 2009 года) Навумава падазраюць у датычнасці да справаў зніклых. Менавіта яму начальнік крымінальнай паліцыі Беларусі генерал Лапацік адрасаваў напісаны ад рукі рапарт, у якім абвінаваціў у знікненнях тагачаснага сакратара Савета бяспекі Віктара Шэймана. На дакуменце была рэзалюцыя Навумава «Ажыццявіць». Пазней улады назвалі дакумент фальшыўкай.

У 2009 годзе Навумаў пайшоў у адстаўку па стане здароўя. Паводле розных крыніц, жыве ў Расіі.

**Паўлічэнка Дзмітрый, былы камандзір спецатраду хуткага рэагавання ўнутраных войскаў МУС**

Палкоўніка МУС у адстаўцы Паўлічэнку падазраюць у арганізацыі забойстваў «злодзеяў у законе», а таксама Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Дзмітрыя Завадскага, кіраўніка беларускага аддзялення РНА Глеба Самойлава.

23 лістапада 2000 года Дзмітрый Паўлічэнка быў затрыманы праз падазрэнне ў арганізацыі шэрагу забойстваў, але быў вызвалены на загад Аляксандра Лукашэнкі. Пасля выхаду са следчага ізалятару Паўлічэнка заявіў перад тэлекамерамі, што «гатовы выканаць любы загад прэзідэнта».

**Петрушкевіч Дзмітрый і Случак Алег, былыя следчыя Генпракуратуры**

У чэрвені 2001 года, напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, былыя следчыя пракуратуры Дзмітрый Петрушкевіч і Алег Случак заявілі, што ў краіне існуе так званы «эскадрон смерці», які быў створаны міністрам унутраных справаў Юрыем Сіваковым на загад сакратара Савета бяспекі Віктара Шэймана. Паводле інфармацыі следчых, брыгаду ўзначальваў Дзмітрый Паўлічэнка. Паводле іх, пасля адстаўкі Сівакова «эскадрон» нібыта перайшоў пад кантроль Навумава.

Петрушкевіч і Случак сцвярджалі, што групай было ўчынена блізу 30 забойстваў. Пазней паведамлялася, што былыя следчыя з'ехалі ў ЗША.

**Сівакоў Юрый, былы кіраўнік унутраных войскаў і міністр унутраных справаў**

Юрый Сівакоў быў міністрам у той час, калі адбылося выкраданне Захаранкі, Ганчара і Красоўскага. Яго падазраюць у стварэнні «эскадронаў смерці» і арганізацыі забойстваў палітычных апанентаў рэжыму Лукашэнкі. У 2001 годзе былы кіраўнік СІЗА № 1 Алег Алкаеў заявіў, што Юрый Сівакоў непасрэдна аддаваў загад на выкананне смяротнага прысуду зніклым палітыкам.

**Угляніца Генадзь, супрацоўнік КГБ, і Жарнасек Андрэй, актывіст арганізацыі «Край»**

У жніўні 2001 года, за два тыдні перад прэзідэнцкімі выбарамі, супрацоўнік КДБ Беларусі капітан Генадзь Угляніца і актывіст арганізацыі «Край» Андрэй Жарнасек распаўсюдзілі відэакасету з абвінавачаннямі ў адрас уладаў Беларусі ў знішчэнні вядомых апазіцыянераў. Яны сцвярджалі, што ведаюць месца забойства і пахавання Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага, якія зніклі ў 1999 годзе. Угляніца і Жарнасек былі абвешчаны ў вышук КДБ, але здолелі пакінуць краіну і атрымалі палітычны прытулак у Нарвегіі.

**Удовікаў Міхаіл, былы намеснік міністра ўнутраных справаў Беларусі**

12 траўня 1999 года намеснік кіраўніка МУС Міхаіл Удовікаў, вывучыўшы матэрыялы вышуковай справы, звярнуўся з лістом да генеральнага пракурора Алега Бажэлкі аб неабходнасці завесці крымінальную справу па факце знікнення Юрыя Захаранкі паводле артыкулу Крымінальнага кодэксу аб наўмысным забойстве.

У лісце Удовікава адзначалася, што, «зыходзячы з абставінаў справы і наяўных матэрыялаў, мяркуецца, што Захаранка мог стаць ахвярай злачынства». Пазней быў прызначаны намеснікам дзяржсакратара Савета бяспекі. Цяпер Удовікаў — палкоўнік міліцыі ў адстаўцы.

**Чумачэнка Уладзімір, следчы пракуратуры ў асабліва важных справах**

Следчы пракуратуры Уладзімір Чумачэнка на працягу некалькіх гадоў расследаваў справы зніклых. Справу аб знікненні Захаранкі Чумачэнку перадалі ад следчай Святланы Байковай, якая займалася ёй больш за два гады. Як тады было патлумачана, «няма падставаў казаць, што Байкова не справілася з расследаваннем, але ўзніклі новыя абставіны, якія прымусілі яе замяніць». Чумачэнка таксама расследаваў забойства журналісткі Веранікі Чаркасавай. У 2019 годзе Чумачэнка памёр ва ўзросце 63 гадоў з прычыны хваробы сэрца.

**Шарыпа Сяргей і іншыя аператыўнікі, якія шукалі Захаранку адразу пасля выкрадання**

Пасля знікнення Юрыя Захаранкі была створана аператыўна-вышуковая група, у якую ўваходзілі кіраўнікі вышуку мінскай міліцыі Сяргей Шарыпа ды следчыя Федарэнка, Даноўскі, Каваль, начальнік следчага падраздзялення Кастрычніцкага РУУС Пятліцкі і намеснік начальніка крымінальнага вышуку Кастрычніцкага РУУС Дзёмкін.

**Шэйман Віктар, былы генпракурор і кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта**

Віктар Шэйман — адзін з ключавых падазраваных у справе зніклых. Як вынікала з рапарту генерала Лапаціка, Віктар Шэйман загадаў свайму падначаленаму Юрыю Сівакову арганізаваць выкраданне і знішчэнне Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага, што было выканана пры ўдзеле Дзмітрыя Паўлічэнкі. Тагачаснага генпракурора Алега Бажэлку адправілі ў адстаўку, а ягонае месца заняў Віктар Шэйман. Знаходзіцца пад санкцыямі ЕС і ЗША. З 2009 года — памочнік кіраўніка дзяржавы па асаблівых даручэннях, з 2013-га — куратар беларускіх праектаў у Афрыцы.

**Ганна Соўсь, «Радыё Свабода»**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# З вялікімі здзіўленымі вачыма

*Сяргей САЛАЎЁЎ*

**Падаецца, мелі рацыю тыя (напрыклад, Сяргей Чалы), хто скептычна ўспрымаў беларускі Парк высокіх тэхналогій. Асноўная іх прэтэнзія да айцішнікаў палягала ў тым, што ПВТ ператворыцца ў «афшорчык» для праграмістаў і не дасць карысці народнай гаспадарцы. У прынцыпе, так яно і здарылася.**

Вінаваціць у гэтым айцішнікаў нават нельга. Яны выбілі для сябе спрыяльныя ўмовы працы. Віна палягае ў нашым дзяржаўным ладзе, той самай «вертыкалі», якая без чыху зверху не зварухнецца.

На гэтым тыдні Аляксандр Рыгоравіч падпісаў дзіўны ўказ. Згодна дакументу, «дзяржаўным органам і арганізацыям дазволена выкарыстанне тэхналогій воблачных вылічэнняў». Па ім, згодна з паведамленнем, «удакладняецца канцэпцыя пераходу дзяржаўных органаў і арганізацый на выкарыстанне тэхналогій воблачных вылічэнняў». «Рэалізацыя... канцэпцыі дасць магчымасць павысіць эфектыўнасць дзейнасці дзяржорганаў і арганізацый за кошт забеспячэння іх надзейнай інфармацыйна-тэлекамунікацыйнай інфраструктурай, узмоцніць узровень інфармацыйнай абароны ў дзяржаўных інфармацыйных сістэмах, забяспечыць абарону персанальных даных грамадзян Беларусі, а таксама павысіць эфектыўнасць выдаткаў бюджэтнай сістэмы на інфармацыйна-тэлекамунікацыйныя паслугі», — адзначаецца ў паведамленні прэс-службы кіраўніка.

Вы сур'ёзна? Увесь свет ужо даўно карыстаецца гэтымі тэхналогіямі. Флэшкі засталіся толькі ў дзівакоў, і тое ў якасці дадатковага дыску альбо стыльнага аксесуару. Ужо ніхто не перасылае вялікія аб'ёмы інфармацыі інакш, як праз Гугл-дыск ці іншыя воблачныя сэрвісы. Амаль уся пошта і дзелавая перапіска ляжыць сабе недзе на серверах далёка за межамі краіны, а доступ да яе можна атрымаць праз мабільны тэлефон. І тут раптам — радуйцеся, людзі, Лукашэнка дазволіў! Цяпер вы перакідваеце файлы праз Dropbox не проста так, а з ухвалення Аляксандра Рыгоравіча!

Але нават з адпаведным дазволам беларускія ўлады не змаглі адладзіць да 1 студзеня 2020 года працэсы і працэдуры, звязаныя з выпускам і ўкараненнем біяметрычных пашпартоў і ідэнтыфікацыйных картаў, і вымушаныя перанесці запуск іх уводу ў дзеянне на год, паведаміў кіраўнік Дэпартамента па грамадзянстве і міграцыі МУС Аляксей Бягун. «З-за шэрагу прычын дзяржаўныя рэсурсы не былі гатовыя да счытвання ID-карты... Трэба яшчэ правесці вялікі комплекс арганізацыйных і практычных мерапрыемстваў... Ёсць папярэдняе рашэнне, яно будзе адпаведным чынам афармлена, што мы пачнём выдачу біяметрычных дакументаў праз год, з 1 студзеня 2021 года», — паведаміў чыноўнік.

Пытанне тое ж: вы сур'ёзна? Сканер адбітку пальца ёсць ці не на кожным смартфоне, тэхналогіі распазнавання твару ўжо таксама перасталі быць дзівам. А Сінявокая, маючы ў сваім арсенале не больш, не менш, а ПВТ, не здолела распрацаваць «счытванне ID-карты»?

Спадарства, калі гэтага не можа зрабіць дзяржава — аддайце тую працу энтузіястам! У 2017 годзе ў нас з падачы Міністэрства абароны з'явілася свая віртуальная дзяржава — «Вейшнорыя». Кожны грамадзянін Вейшнорыі мае пластыкавую ID-карту з ідэнтыфікацыйным нумарам і цалкам чытэльным персанальным QR-кодам. Гэты код не толькі пацвярджае асобу «вейшнорца», а нават дае доступ да віртуальнага гаманца з крыптавалютай «талер». І ўсё гэта — на чыстым энтузіязме, без капейкі з дзяржаўнага бюджэту (праўда, за «карту вейшнорца» даволася заплаціць, але ж і мы плацім за афармленне пашпарту).

**Група людзей «проста так і прыколу дзеля» зрабіла тое, што не могуць зрабіць дзяржаўныя структуры за шалёныя грошы. Бюджэтныя, між іншым, грошы, то-бок нашыя**

Атрымліваецца, група людзей «проста так і прыколу дзеля» зрабіла тое, што не могуць зрабіць дзяржаўныя структуры за шалёныя грошы. Бюджэтныя, між іншым, грошы, то-бок нашыя.

Яшчэ адна нагода запытацца пра сур'ёзнасць намераў — нарада па пытаннях прымянення мераў адміністрацыйнай адказнасці ў Лукашэнкі. Кіраўнік краіны жахнуўся: за няпоўныя 5 гадоў зарэгістраваныя 16 мільёнаў парушэнняў, за здзяйсненне якіх да адказнасці прыцягнутыя каля 3,5 мільёна грамадзян — больш за 50% усяго працаздольнага насельніцтва. Правам складаць пратаколы аб правапарушэннях валодаюць супрацоўнікі больш за 70 ведамстваў.

«Нам трэба разабрацца, што стаіць за гэтымі дадзенымі, і, натуральна, прыняць меры... Як мне дакладваюць, да гэтага часу ў нас не выкаранена палачна-галачная сістэма. Гэтым грашаць практычна ўсё: міліцыя, мытныя органы, падатковая інспекцыя, пажарная служба, санстанцыя і іншыя. Даходзіць да таго, што кіраўніцтва ад супрацоўнікаў патрабуе прынесці не менш трох-пяці пратаколаў аб правапарушэннях за дзень, калі не — застанешся без прэміі. Недапушчальна», — заявіў Лукашэнка.

Шчыра скажам: ну як дзеці малыя, якія не могуць звязаць паміж сабою прычыну і следства! Спачатку парламент зацвярджае бюджэт краіны, у якім штогод закладаецца такі пункт, як «прыбытак ад штрафных санкцый» (у 2020 годзе, дарэчы, дзяржава плануе сабраць штрафаў на 120 мільёнаў рублёў — амаль 60 мільёнаў долараў). А потым хочуць выкараніць «палачна-галачную сістэму» і кажуць, што штрафы «недапушчальныя». Калі яны сапраўды «недапушчальныя» — не закладайце гэтыя грошы ў бюджэт! А пакуль бюджэт такі, хочаш — не хочаш, а выконвай «зборнасць штрафаў» давядзецца. Інакш хтосьці зноў атрымае па шапцы — гэтым разам за невыкананне прагнозных паказчыкаў напаўняльнасці бюджэту.

І ёсць яшчэ адна навіна, да якой незразумела, як ставіцца. Кажуць, што Расія і Беларусь дамовіліся наконт адной з самых складаных праблем у рамках інтэграцыйнага працэсу — кампенсацыі за расійскі падатковы манеўр у нафтавай галіне. Расія пакрые Беларусі страты ад падатковага манеўру, увеўшы зваротны акцыз для беларускіх НПЗ. Сума субсідый можа скласці да 1,5 мільярда долараў у год, паведамляе РБК са спасылкай на ўласныя крыніцы.

У 2020 годзе «індыкатыўны баланс» прадугледжвае пастаўку ў Беларусь 24 мільёнаў тон нафты, але «ператаможка» 6 мільёнаў тон нафты ў яго не ўваходзіць. Для сярэдняга расійскага завода адмоўны акцыз з 2024 года складзе 4 тысячы расійскіх рублёў на тону, або 1,5 мільярда долараў пры перапрацоўцы 24 мільёнаў тон нафты.

Можа быць, гэта перамога Беларусі ў нафтавай спрэчцы? Але Расія за проста так ужо нічога не дае. Чым ахвяравала Сінявокая, каб атрымаць такі бонус? Што не так з дагэтуль не вядомымі нам «дарожнымі картамі паглыбленай інтэграцыі»?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Пётр Маркелаў

**Актывіст грамадскай ініцыятывы Legalize Belarus, арыштаваны на 14 сутак за спробу прадухіліць фальсіфікацыі на выбарчым участку, адбывае пакаранне ў Цэнтры ізаляцыі парушальнікаў на Акрэсціна.**

Па словах бацькоў Маркелава, першыя дні арышту ён правёў у жудасных умовах — сядзеў у адной камеры з бяздомнымі, паўсюль поўзалі вошы. Да таго ж з яго здзекаваліся супрацоўнікі: забралі ў Пятра матрац і ён спаў на металічнай рашотцы. На просьбу вярнуць матрац папярэдзілі: «Калі ты будзеш нешта патрабаваць, звяжам цябе».

Акрамя таго, Маркелава прымушалі распранацца і шторaніцу выкідалі яго рэчы на падлогу ўперамешку з рэчамі бяздомных, не давалі выключаць святло і не дазвалялі сядзець.

Таксама да яго тры дні не магла трапіць адвакатка. І ўмовы яго ўтрымання выправіліся толькі напярэдадні візіту абаронцы. Але ў нядзелю Маркелаву прынеслі новы адміністрацыйны пратакол за ўдзел у несанкцыянаваным мітынгу 7 снежня.



## Пётр Садоўскі

**За пратэст супраць інтэграцыі з Расіяй збіраюцца судзіць самых паважаных людзей. У тым ліку 78-гадовага мовазнаўцу, першага пасла Беларусі ў Германіі.**

Пётр Садоўскі атрымаў дзве позвы з міліцыі за ўдзел у несанкцыянаваным мітынгу. На сходзе людзей за незалежнасць Пётр Садоўскі праспяваў песню на верш Янкі Купалы «А ў бары-бары тры дарожанькі». Акрамя таго, ён прапанаваў прыцягнуць кіраўніка дзяржавы да судовай адказнасці за распальванне варожасці паміж грамадзянамі па моўнай прыкмеце (публічная знявага беларускай мовы праз фанетычнае перадражніванне, скрыўлены твар, агідную інтанацыю і гэтак далей) ды знявагу праз гэта і мовы сваёй роднай маці (гэта аспект парушэння сталых беларускіх сямейных каштоўнасцяў роднасці і павагі).

На нядаўняй прэс-канферэнцыі прадстаўнікі дэмакратычных сілаў заявілі, што ўсе, каго паспрабуюць засудзіць за пратэсты супраць інтэграцыі, атрымаюць дапамогу праваабаронцаў.



## Уладзімір Цыплакоў

**У Мінску памёр легендарны беларускі хакеіст і гулец НХЛ. Па словах спартыўнага дырэктара ФХБ Уладзіміра Бяражкова, у яго быў сардэчны прыступ.**

«Ён да апошняга хацеў гуляць у хакей. І ён усяго сябе яму і аддаваў. Можа быць, таму памёр. Стараўся быць у форме, стараўся рабіць усё, каб працягваць гуляць: у прэзідэнцкай камандзе, начной лізе, з сябрамі. Ён да апошняга застаўся адданы хакею», — сказаў Бяражкоў.

Цыплакоў пачаў прафесійную кар'еру ў 1985 годзе ў складзе яраслаўскага «Тарпеда», які выступаў у Першай лізе чэмпіянату СССР. Пасля сезону 1986/87, перайшоў у мінскае «Дынама», дзе выступаў на працягу наступных 5 сезонаў, заваяваўшы ў 1988 годзе права ўдзельнічаць у чэмпіянаце СССР. Усяго ў складзе «Дынама» Цыплакоў правёў 190 матчаў, пасля чаго прыняў рашэнне адправіцца ў Паўночную Амерыку.

Пасля трох сезонаў, праведзеных у ніжэйшых лігах, у 1995 годзе на драфце НХЛ ён быў абраны клубам «Лос-Анджэлес Кінгз». У складзе «каралёў» Цыплакоў выступаў на працягу чатырох з паловай сезонаў. У сярэдзіне сезону 1999/00 ён быў абменены ў «Бафала Сэйбрз», дзе гуляў паўтара года.

У 2001 годзе Цыплакоў вярнуўся ў Расію, падпісаўшы кантракт з казанскім «Ак Барсам», з якім у сезоне 2001/02 ён стаў сярэбраным прызёрам чэмпіянату Расіі. У складзе казанцаў Цыплакоў выступаў да 2004 года, пасля чаго перайшоў у маскоўскі ЦСКА. У складзе «армейцаў» правёў увесь сезон 2004/05, а апошнія 7 матчаў у сваёй кар'еры ён адыграў за «Юнацтва-Мінск».

У складзе зборнай СССР Цыплакоў прымаў удзел у моладзевым чэмпіянаце свету 1989 года, на якім ён разам з камандай заваяваў залатыя ўзнагароды. У складзе зборнай Беларусі — выступаў на 6 чэмпіянатах свету (з іх 2 у першым дывізіёне), Алімпійскіх гульнях 1998 і 2002 гадоў.

# «Чалавеку пасля турмы застаецца толькі зноў абрабабаваць шапік»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Як жыве прадпрыемства, дзе працуюць людзі з ВІЧ, інваліднасцю і былыя зняволеныя.**



У швейнай майстэрні працуюць як жанчыны, так і мужчыны

## «Я не магла дазволіць сабе быць горшай»

— Я з дзяцінства настройвала сябе, што павінна працаваць там, дзе магу, а не дзе хачу. Людзям з інваліднасцю пастаянна трэба даказваць, што яны не горшыя за іншых. Усё жыццё трэба падладжвацца. У мяне з самага маленства дужа дрэнны зрок. Але па мне ніколі гэтага не скажаш, таму што я вельмі адаптаваная, — кажа Наталля Стрэльчанка, якая кіруе ў Светлагорску сацыяльным прадпрыемствам «Умелы Калабок» і ўзначальвае грамадскае аб'яднанне «Роўныя магчымасці».

Першае ўражанне пра Наталлю — яна паўсюль адчувае сябе як рыба ў вадзе. Яна пагаджаецца і кажа, што гэта — вынік вялікай працы.

— У школе я па ўсіх прадметах рабіла дзве кантрольныя за ўрок. Бо я з дошкі не бачыла заданняў, таму суседка па парце спачатку перапісвала мне свой варыянт, я яго хуценька рашала, а потым — мой. Ёй я рабіла на 3–4, бо яна кепска вучылася, а сабе — на 5. Я не магла дазволіць сабе быць горшай, да таго ж мне гэта лёгка давалася.

Можа, таму і місію (язык не паварочваецца назваць гэта «працай») Наталля абрала не самую простую. На яе прадпрыемстве працуюць людзі з інваліднасцю, ВІЧ-станоўчыя, пасля турмаў і ЛПП, шматдзетныя маці і маці дзяцей з інваліднасцю — словам, тыя, каго звычайна не бяруць на працу. А Наталля — бярэ. Бо гэта, у пэўным сэнсе, маніфест яе жыцця.

— З людзьмі, якія прыйшлі з турмаў, лёгка працаваць. Яны звыклыя да парадку, а яшчэ яны вельмі цэняць, калі ім давяраеш, — дзеліцца досведам суразмоўца.

Хаця, канешне, бываюць і крадзяжы, але вельмі рэдка. У гэтых выпадках Наталля лічыць неабходным «дагрукацца да свядомасці» супрацоўнікаў. Звычайна пасля размовы сам-насам праблемы знікаюць.

— З імі значна прасцей, чым з людзьмі з інваліднасцю, асабліва з тымі, якія сядзяць дома і атрымліваюць гіперапеку. А вось з алказалежнымі праблемы ўзнікаюць увесь час. Зрывы бываюць, таму ў вытворчасці на іх мы стаўку не робім, а разлічваем на пастаянных людзей.



Наталля Стрэльчанка

## Як з'явіўся «Умелы Калабок»

У 33 гады Наталлі далі групу інваліднасці па зроку. Жанчына прыйшла ў Таварыства сляпых і адразу апынулася сярод лідараў. Дзякуючы сваёй актыўнасці, яна здолела стварыць у Светлагорску філіял гомельскага завода «Светлатэхніка», дзе невідушчыя людзі збіралі свяцільнікі. Прадпрыемства праіснавала восем гадоў, але ў Гомелі змянілася кіраўніцтва, якое стала закрываць філіялы. Супрацоўнікі аказаліся на вуліцы, а Наталлю адправілі працаваць у Мазыр на аб'яднанне двух заводаў. Адпрацаваўшы 1,5 года, Наталля з'ехала.

Пакуль працавала ў Мазыры, яна не пераставала дасылаць лісты, каб людзям, якія працавалі з ёй у Светлагорску, далі працу. Сама па вяртанні змагла ўладкавацца ў кніжны шапік прадаўцом. Але нарэшце пасля адной з заяў кіраўніка дзяржавы справа зрушылася з мёртвай кропкі, і ў Гомельскім аблвыканкаме пытанне працаўладкавання невідушчых узнялі на кантроль. І так сталася, што акурат у гэты час двое мужчын, пакуль ляжалі ў Гомелі ў шпіталі, вырашылі стварыць сацыяльнае прадпрыемства з працаўладкаваннем людзей з інваліднасцю. Праўда, мэта ў іх была самая празаічная — зарабіць на гэтым грошы. І з гэтай ідэяй яны прыйшлі ў Гомельскі аблвыканкам з запытам на людзей з інваліднасцю.

— Ім далі мой нумар тэлефона, а далей — справа тэхнікі, — усміхаецца суразмоўца.

Так з'явілася прадпрыемства, дзе людзі з інваліднасцю займаліся расфасоўкай метызаў, а Наталля Стрэльчанка, яшчэ сама таго не ведаючы, стала яго дырэктаркай.

— Праз месяц я запытваюся: «Хлопцы, вы хоць назву мне скажыце». А яны кажуць: «Умелы Калабок» і паказваюць мне дакументы. Я да гэтага часу камплексую ад такой назвы, але цяпер яна — брэнд прадпрыемства, і адмовіцца ад яе складана, — прызнаецца Наталля.

А гісторыя была такая: калі заснавальнікі прыйшлі рэгістравацца ў выканкам, усе прапанаваныя назвы ім не падабаліся. І адна з супрацоўніц сказала: «Ну не "калабкамі" ж вас назваць!». На што пачула: «А чаму не? "Умелы Калабок". Бо з інваліднасцю — без ручак, без ножак, без зроку, а ўсё ўмеюць».

Умець, сапраўды, давялося ўсё, у залежнасці ад патрэбаў рынку. Спачатку «Умелы Калабок» займаўся фасаваннем і продажам цвікоў, потым тут распрацоўвалі эксклюзіўныя гаспадарчыя тавары, дываннкі для дэзінфекцыі падчас афрыканскай чумы свіней, затым пачалі шыць рытуальныя покрывы і падушкі, а там дайшло і да вырабу вянкоў, трунаў і ўсяго неабходнага для пахавання.

## Першую труну збілі ўдваіх з намесніцай

«Не палохайся, тут мы робім труны», — праводзіць мяне ў цэх, які некалі быў крамай, Наталля. У памяшканні стаіць адна гатовая пунсовая труна, на падваконні ляжаць бліскучыя дэталі для аздаблення, у пакунках — штучныя кветкі для вянкоў.

Пакуль праца тут прыпыненая: чакаюць завозу драўніны. Але двое майстроў на месцы і ў любы час гатовыя ўзяцца за справу. Пытаюся ў Наталлі, ці не было такога, што яе супрацоўнікі баяліся ці не хацелі займацца вырабам рытуальнай прадукцыі.

— У гэтай працы важна, як сябе маральна настроіш. Бо самі па сабе тканіны не нясуць ніякага негатыву. У мяне з такой тканіны фіранкі ў кабінеце, і з яе ж мы шыем покрывы.

Першую труну мы з маёй намесніцай збілі ўдваіх: бо, калі я даю людзям працу, я павінна ведаць, як яна робіцца. Потым мы тры дні яе прыгожа абівалі, і калі нарэшце зрабілі, выпеставалі — якi можа быць страх пасля гэтага? За ўвесь час толькі адзін чалавек пасля таго, як убачыў, што мы тут робім труны, больш не прыйшоў. Потым жонка распавяла, што яго трэсла ўсю ноч.

Бадай, самае прэзентабельнае збудаванне ва ўсім комплексе «Умелага Калабка» — рытуальная крама, якая месціцца побач з асноўным будынкам. Яна абшытая сайдынгам, усярэдзіне зроблены рамонт, і, каб не спецыфічная прадукцыя, можна было б сказаць, што памяшканне радуе вока. У першай зале выстаўленыя толькі вянкі і кошыкі са штучнымі кветкамі, покрывы і адзенне, а труны перанесеныя ў іншую — каб не шакаваць пакупнікоў. Адна бяда — няма чым плаціць за ацяпленне, таму прадавачка Віка грэецца пры дапамозе кандыцыянера. Дзяўчына мае вышэйшую матэматычную адукацыю і 2-ю групу інваліднасці.

— У мяне шмат людзей з вышэйшай адукацыяй, але хвароба нікога не шкадуе, — распавядае Наталля Стрэльчанка. — Таксама ёсць прыбіральшчыца з анкалогіяй, яе адправілі паміраць. А яна адлежваецца дзень пасля «хіміі» і прыходзіць, кажа: «Гэта мне дае моцы жыць».



Склады з гуманітарнай дапамогай

## Думаць пра кагосьці яшчэ

Будынак, дзе цяпер месціцца прадпрыемства, «Умеламу Калабку» і «Роўным магчымасцям» аддае ў арэнду райвыканкам. Збудаванне старое і патрабуе рамонту, на які катастрафічна не хапае грошай. Цяперашнім насельнікам усё даводзіцца рабіць тут сваімі рукамі.

На першым і другім паверсе адміністрацыйныя памяшканні чаргуюцца з майстэрнямі і складамі, а на трэцім размяшчаюцца грамадскія арганізацыі.

— Амаль два гады таму мы стварылі «Роўныя магчымасці». Мы сабралі тут усе грамадскія аб'яднанні горада. Бо чалавек, які прыйшоў з турмы, не ведае, куды яму пайсці. І яму застаецца толькі зноў абрабаваць нейкі шапік і вярнуцца ў турму. Таму такім людзям павінна аказвацца комплексная падтрымка і суправаджэнне, камусьці трэба яшчэ і падлячыцца. Таксама дапамога патрэбная людзям з інваліднасцю і тым, хто выхоўвае дзяцей з інваліднасцю, — распавядае Наталля.

Гэта адзіны такі праект у Беларусі, калі ствараецца сацыяльна-вытворчы комплекс. Сюды ўваходзяць лідары такіх арганізацый, як БелТІ, БелТІЗ, Чырвоны Крыж, «Людзі+» (працуюць з ВІЧ-інфікаванымі), «Ветэраны спорту», Таварыства вазочнікаў, арганізацыя маці, што выхоўваюць дзяцей з інваліднасцю, а яшчэ — тры сацыяльныя прадпрыемствы: «Умелы Калабок», рамонт электраінструментаў і тыпаграфія.

Чырвоны Крыж, акрамя асноўных абавязкаў, займаецца тут зборам і раздачай гуманітарнай дапамогі. Дзейнасць філіяла «Людзі+» накіраваная на тое, каб знізіць дыскрымінацыю ў адносінах да людзей з ВІЧ. Тут ладзяць лекцыі і трэнінгі як для хворых, так і для іх блізкіх, развенчваюць шматлікія міфы, звязаныя з вірусам, а неўзабаве збіраюцца нават абсталяваць кабінет па заборы крыві. Ёсць тут і актавая зала, дзе праходзяць як сур'ёзныя, так і забаўляльныя мерапрыемствы.

За час сваёй працы «Умелы Калабок» закрыў у горадзе пытанне працаўладкавання людзей з інваліднасцю. У Наталлі ёсць ідэі, як развіваць і прадпрыемства, і «Роўныя магчымасці». Але банальна не хапае на гэта чалавечых і фінансавых рэсурсаў. Сама яна працуе па 14 гадзін на суткі, ужо 10 гадоў не была ў адпачынку і тры гады не атрымлівала зарплаты — жыве на адну пенсію па інваліднасці.

— Калі ў мяне пытаюцца, як можна столькі працаваць за бясплатна, я адказваю, што не ўяўляю, як можна гэтага не рабіць. Хаця спадзяюся, што калісьці ўсё ж змагу забраць грошы. Проста калі ты жывеш у гэтым свеце, ты павінен яго паляпшаць, а не забіваць, і, жывучы побач з людзьмі, думаць не толькі пра сябе, а пра кагосьці яшчэ.

Беларусь Эканамічная

САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫ ПРАЕКТ «НОВАГА ЧАСУ» | novychas.by




7 СПРАВЯДЛІВЫЯ ТАЛОНЫ

8 КАНТРАЛЁР — ГЭТА ГУЧЫЦЬ НЕРВОВА
У 2018 ГОДЗЕ Ў «МІНСКТРАНС» УЛАДКАВАЛІСЯ НА ПАСАДУ КАНТРАЛЁРА 236 АСОБАЎ, А ЗВОЛЬНІЛІСЯ 207

# Куды каціцца грамадскі транспарт

Павел КІРЫЛАЎ

**Праезд у грамадскім транспарце беларускіх гарадоў зноў даражэе. І мы звыкла чуем ужо аскомінныя падставы: каб ён акупляўся, талон павінен каштаваць значна даражэй, чым цяпер. І, маўляў, паглядзіце на кошты за мяжой. Але пры абодвух гэтых довадах транспартныя ўлады хітруюць. Асобная ж тэма — нараканні на якасць паслугаў, якія нам аказваюць. Што самае праблемнае ў працы грамадскага пасажырскага транспарту і што будзе рабіцца дзеля яе паляпшэння?**

Да гэтага снежня кошты на праезд у гарадскім грамадскім транспарце былі непарушных дастаткова працяглы час — з восені 2017 года, калі кошт талону ўзрос на 5 капеек. Брэст стаў першым абласным цэнтрам, дзе днямі адбылося новае падаражанне. Квіток на адну паездку цяпер каштуе там на 5 капеек болей — 60. У хуткім часе падаражанне адбудзецца па ўсёй краіне.

Большы кошт квітку ў Мінску тлумачыцца тым, што ўзровень кампенсацыі насельніцтвам выдаткаў на перавозкі пасажыраў грамадскім транспартам у сталіцы меншы, чым у сярэднім па Беларусі і ў абласных цэнтрах. Паводле Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю, гэты паказчык у Мінску меней за 65% за праезд наземным транспартам (і блізу 75% у метро), па абласных цэнтрах ён істотна большы — 85%. Хаця мінскае транспартнае начальства называе меншыя лічбы, чым МАРТ — каля 50%. У 2020 годзе ўзровень дзяржаўных датацый запланавана скараціць — адпаведна, кошт праезду ў грамадскім транспарце дакладна вырасце. Можна прыкладна разлічыць і кошт талону на адну паездку, калі пасажыры будуць аплачваць 100% кошту: варта рыхтавацца да таго, што гэта будзе дыяпазон 90 капеек — 1 рубель.

### «Душагубкі» на колах

Аднак не будзем забывацца на тое, што датацыі з боку дзяржавы на перавозкі пасажыраў грамадскім транспартам бяруцца не з паветра, а з падаткаў гэтых самых пасажыраў — то-бок, нас з вамі. Пахвальбой сацыяльна арыентаванай эканомікі з'яўляецца і параўнанне коштаў на праезд у нас і за мяжой. Сапраўды, сярод сталіцаў еўрапейскіх краін у Мінску адзін з самых нізкіх коштаў талончыка на праезд. Прыкладна такі самы ён і ў Кіеве — 8 грыўняў (70 нашых капеек). Але...

Аўтамабільнае паліва ва Украіне даражэйшае: 95-ы бензін у нас каштуе 1,7 рубля, а там 2,4 у пераліку. Што да краін ЕС, то параўнаем месячныя праязныя ў Мінску і Варшаве. Па адной з дзвюх варшаўскіх зонаў ён абыдзецца ў 110 злотых (60 беларускіх рублёў), па абедзвюх — 210 (115 рублёў). У Мінску кошт безлімітнага праязнога на ўсе віды грамадскага транспарту — каля 50 рублёў. Але ў польскай сталіцы агульны праязны дзейнічае і ў прыгарадных цягніках, якія інтэграваныя ў сістэму варшаўскага грамадскага транспарту (тое самае тычыцца і кароткатэрміновых квіткоў). І самае важкае «але», чаму перавага Мінска перад Варшавай па таннасці грамадскага транспарту наміналька-ўяўная. Дастаткова параўнаць сярэднія заробкі ў Беларусі і Польшчы. У нас працягваецца беспаспяховае змаганне за культавыя 500 долараў, а ў палякаў сярэдняя зарплата амаль утрая большая — пад 1350 долараў. Мінскі ж праязны на ўсе віды грамадскага транспарту таннейшы за варшаўскі, як бачым, толькі ўдвая. Так што, нібыта сацыяльна арыентаванай эканомікай і ў галіне транспарту не пахвалішся. А калі кошты на праезд вырастуць да так званай поўнай акупляльнасці, гэта стане яшчэ больш відавочным.

Праблемы грамадскага транспарту ў беларускіх гарадах даўнія. Перадусім гэта старэнне парка, з'яўленне новых машын у якім ідзе далёка не жаданымі тэмпамі. Транспарту на маршрутах, перадусім з ускраінаў у цэнтр і паміж ускраінамі, відавочна нестае. Інтэрвалы руху дастаткова вялікія, што асабліва адчуваецца пасажырамі літаральна на сваёй скуры ўзімку. Старая праблема — крайнасці кліматычных умоваў у салонах трамваяў ды тралейбусаў, калі ўзімку холадна, а ўлетку — душна. Паводле інфармацыі «Мінсктрансу», толькі 23% сталічных аўтобусаў маюць сістэмы кандыцыянавання салона! Нездарма ў скаргах некаторыя пасажыры дастаткова рэзкія ў выказваннях — і называюць такія аўтобусы нават не «парылкамі», а «быдлавозамі».




Увогуле, у сярэднім цяпер мінскім тралейбусам ды аўтобусам — 10 гадоў (а ў рэгіёнах сітуацыя яшчэ горшая). Столькі якраз складае прыдатны тэрмін эксплуатацыі транспарту. Палова мінскіх аўтобусаў і тралейбусаў па нарматывах падлягае спісанню. Для параўнання, у Наваполацку 80% аўтобусаў вычарпалі свой амартызацыйны рэсурс. У трамваяў тэрмін эксплуатацыі большы — 15 гадоў, а іх сярэдні ўзрост цяпер у Мінску — 11 гадоў. Дарэчы, трамваі ў Беларусі ездзяць, апрача Мінска, у Віцебску, Мазыры і Наваполацку. А геаграфія тралейбусных перавозак такая: сталіца, усе абласныя цэнтры і Бабруйск. Тралейбусы і трамваі з вялікай верагоднасцю могуць з'явіцца і ў іншых гарадах. Паводле прынятых сацыяльных стандартаў, лініі гэтага электрычнага грамадскага транспарту могуць будавацца ў гарадах з насельніцтвам ад 50 тысяч чалавек.

### Мода на трамвай

У абнаўленні і развіцці грамадскага транспарту вырашана рабіць стаўку менавіта на электрычны транспарт як на экалагічны і таннейшы. Больш за тое, стаіць амбітная задача, каб увесь гарадскі транспарт агульнага карыстання з цягам часу стаў электрычным. Таму і аўтобусы з тралейбусамі, што выходзяць з эксплуатацыі, ужо цяпер стараюцца замяняць менавіта электробусамі беларускай зборкі — ад прадпрыемства «Белкамунмаш». Паколькі «зялёны транспарт» — агульнасусветны трэнд, тут разлічваюць на значны экспарт сваіх электробусаў. Гэты інавацыйны пасажырскі транспарт выпускаецца з салонам на 150 пасажыраў і з улікам патрэбаў асобаў з абмежаванай мабільнасцю. Працуе «гібрыд» на батарэях, якія зараджаюцца за 5 хвілінаў на канцавых прыпынках.

Натуральна, пры пераходзе на электрычны транспарт, маецца разлік і на энергію, што будзе выпрацоўваць будучая АЭС пад Астраўцом. Такая вось схема: небяспечная для навакольнага асяроддзя і жыцця людзей «атамка» будзе служыць для распаўсюду «зялёнага» транспарту.

У выніку мінскія ўлады нарэшце звярнулі ўвагу на трамвайны рух, які ў Еўропе перажывае сапраўднае адраджэнне. А ў нас у сталіцы за апошнія 30 гадоў не з'явілася ніводнага кіламетра трамвайных рэек. Між тым, у Варшаве даўжыня трамвайных ліній складае больш за 100 кіламетраў, у Празе — амаль 150, а ў Мінску — усяго 25! У планах — мэць 45 кіламетраў да 2030 года, а пасля — падоўжыць да 95 кіламетраў. У прыватнасці, новыя лініі з'явяцца ад вуліцы Кастрычніцкай да Малініна праз Трасцянецкую (кірунак у мікрараён Серабранка) і з густанаселенага мікрараёна Сухарава ў цэнтр па Шаранговіча, Панамарэнкі і Харкаўскай. Прычым, па гэтых лініях пусцяць хуткасныя трамваі. Цяпер яны едуць з улікам прыпынкаў да 18 кіламетраў на гадзіну, а будуць разганяцца да 25 кіламетраў на гадзіну. Для параўнання, Канцэпцыя павышэння якасці паслугаў па перавозцы пасажыраў транспартам агульнага карыстання на 2015–2020 гады ставіла на мэце павялічыць хуткасць тралейбусаў і аўтобусаў да 20 кіламетраў на гадзіну (аўтамабілі перасоўваюцца з хуткасцю больш за 30 кіламетраў на гадзіну). Такім чынам, трамваі апынуцца на другім месцы па хуткасці пасля метро, частка трэцяй лініі якога павінна запрацаваць у Мінску ў другой палове наступнага года. У перспектыве трамвай мог бы стаць і прыгарадным транспартам — ездзіць з Мінска ў іншыя блізкія гарады па існым чыгуначным палатне.

Развіваць грамадскі транспарт, перадусім электрычны, трэба ў тым ліку і праз дбанне пра гарадскую прастору, якую спрэс акупавалі аўтамабілі. І, калі трамвай перавозіць сотню чалавек, то аўто — максімум 5. Дарэчы, паводле нядаўняга даследавання лабараторыі «Грамадская думка» пры БДУ, больш за палову мінчукоў ездзяць на працу менавіта грамадскім транспартам. Калі ўдасканаліць яго працу, своечасовасць руху і камфортнасць, колькасць пасажыраў павялічыцца. А змяншэнне аўтамабіляў на дарогах гарадоў дазволіць грамадскаму транспарту ездзіць хутчэй. Дадатковыя захады для гэтага — асобныя палосы для грамадскага пасажырскага транспарту і адмысловая разумная сістэма «зялёнай хвалі», калі пад транспарт адмыслова настройваюцца святлафоры.

Калі б гэта ўсё запрацавала, задаволеных пасажыраў стала б болей. Пакуль жа сітуацыя, паводле апытання на сайце ўстановы «Сталічны транспарт і сувязь», такая: толькі 31% пасажыраў задаволены транспартным абслугоўваннем раёна, дзе яны пражываюць.



Фота www.auto.onliner.by

# Марш на маршрут!

Мірaслаў ГАЖЭЦКІ

**Сітуацыю з пасажырскімі перавозкамі ў рэгіёнах Беларусі лепш за ўсё характарызуюць вынікі нядаўняй праверкі гэтай галіны з боку Камітэта дзяржкантролю ў Аршанскім раёне. А гэта не абы-які раён: Аршаншчынай апякуецца сам кіраўнік дзяржавы, які нават зацвердзіў спецыяльную праграму яе прыярытэтнага развіцця. Мяркуецца, што затым гэта будзе ўзорам для астатніх раёнаў.**

Але пакуль прагучаў афіцыйны несуцяшальны вердыкт філіялу «Аўтобусны парк № 3 г. Оршы» ААТ «Віцебскаблаўтатранс» — «страта даверу пасажыраў».

Паводле прынятага ўрадам Комплексу захадаў па рэалізацыі Праграмы развіцця Аршанскага раёна да 2023 года, аўтапарку была пастаўлена задача «павышэння дасяжнасці і якасці транспартных паслугаў для насельніцтва». Дзяржкантроль выявіў парушэнні і недахопы, якія замінаюць гэтаму.

## Кіроўцы з'язджаюць на Захад і ў Расію

У прыватнасці, «не забяспечана дакладнае прытрымліванне ўстаноўленых графікаў руху, своечасовае інфармаванне насельніцтва аб працы транспарту». Пасажыры скардзяцца на парушэнне раскладу рэйсаў і неаднаразовыя іх зрывы. Кіраўніцтва філіялу ў якасці прычыны называе «неўкамплектаванасць штатнай колькасці кіроўцаў». А яна вельмі вялікая: нестае 20 кіроўцаў, або амаль 15% ад штатнага раскладу. І «вырашыць праблему пакуль не атрымліваецца», сведчыць Дзяржкантроль. Яно і зразумела: заробкам у 600 рублёў не асабліва завабіш.

Канешне, у рэгіёнах з працай сітуацыя складаная, для многіх і гэта прыстойная сума, але кіроўцы могуць падацца ў прыватныя фірмы-перавозчыкі, дзе заробак крыху вышэйшы, ці ў Расію, якая ў аршанцаў пад бокам.

Падобная сітуацыя з кадрамі не толькі на Віцебшчыне. Наракаюць на яе і на паўночным захадзе краіны — гродзенскія кіроўцы, у сваю чаргу, выпраўляюцца ў Еўропу, дзе могуць зарабіць у некалькі разоў больш. У Мінску такой праблемы няма. У сталіцы кіроўцы зарабляюць 1500 рублёў і болей, але скардзяцца на ўмовы працы. Гэтай зімой супрацоўнікі некалькіх аўтобусных і тралейбусных паркаў «Мінсктрансу» нават склалі петыцыю да Генпракуратуры і Камітэта дзяржкантролю. Яны наракалі на ўмовы працы і стан транспарту. Гаворка вялася пра зношанасць гумы на колах, няспраўнасць тармазоў на большасці машын, на шчыліны ў кабінах: «Як вынік, скразняк узімку, у дождж залівае вада». А яшчэ: «Не працуе падагрэў люстэркаў, прадугледжанае заводам-вытворцам, у выніку чаго яны замярзаюць і пацеюць — утвараецца дрэнны агляд бакавін рухомага саставу».

> **Прыватныя перавозчыкі пачалі паступова пераўтварацца ў «рэгуляраў», але ў «ценю», як кажуць транспартныя ўлады, некаторыя ездзяць дагэтуль. Перыядычна іх фіксуюць і пазбаўляюць ліцэнзіяў праз суд**

Кіроўцы незадаволеныя і тым, што час на рэйсы скарацілі, і, каб выконваць рэгулярнасць, яны вымушаны ехаць з рызыкай для бяспекі руху: «Даводзіцца не стаяць на станцыях належны час, а ехаць без перапынкаў, на мяжы тэхнічных магчымасцяў таго самага тралейбуса, каб нагнаць адставанне ад раскладу. У выніку чаго час бесперапыннага кіравання аўтобусам, тралейбусам і трамваем можа складаць да 4–5 гадзін у інтэнсіўным гарадскім руху».

І калі транспартныя ўлады хваліліся ўсталяваннем відэакамер у кабінах кіроўцаў грамадскага транспарту ў Мінску, што дазволіла кантраляваць іх працу і караць за парушэнні, то самі шафёры папрасілі «даць прававую ацэнку прымяненню ўстаноўленых відэакамер, якія накіраваныя ў твар кіроўцы і вядуць відэазапіс у бесперапынным рэжыме з функцыяй аўдыёзапісу і з магчымасцю захоўваць знятую інфармацыю на працягу месяца». Незадаволеныя яны былі і тым, што «ў агляд відэакамер трапляе інфармацыя пра асабістае жыццё, напрыклад, з экранаў тэлефона (паролі, асабістая перапіска) падчас карыстання тэлефонам на перапынках і ў абедзенны час». Знятае відэа дэманстратыўна паказваюць на сходах усім удзельнікам, не пытаючыся дазволу на гэта ў самога кіроўцы: «Калі гэта законна, патрабуем ініцыяваць такую ж відэаздымку ў кабінетах кіраўніцтва з мэтай выключэння парушэнняў заканадаўства аб працы і неправамерных дзеянняў датычна працаўнікоў, якія да іх звяртаюцца». І ўвогуле, маўляў, «ствараецца псіхалагічны дыскамфорт кіроўцам, узнікае чыннік адцягнення ўвагі, чырвоныя блікі ў начны час».

Паскардзіліся кіроўцы на тое, што, згодна з кантрактам, яны маюць права на выхадны ў святочны дзень, але ў філіялах на працу ў святочны дні нават не пытаюцца згоды: «Не прымаюць заявы і не даюць нават адзін дзень без захавання заробтнай платы па сямейных і іншых абставінах».

У «Мінсктрансу» ж свая праўда: грамадскі транспарт — спецыфічная галіна, якая павінна працаваць увесь час належным чынам.

## «Рэгуляры»

Дый наогул, вельмі цяжка трымацца балансу паміж інтарэсамі замоўцы (кіраўніцтва горада ці раёна), спажыўцоў (пасажыраў) і выканальнікаў (фірмаў-перавозчыкаў і кіроўцаў). Дзеля аптымальнай арганізацыі руху па ўсёй краіне былі створаныя нібыта незалежныя ўстановы — аператары перавозак, хаця іх менеджараў на працу наймае мясцовая выканаўчая ўлада, патрабуючы скарачаць выдаткі і пры гэтым арганізаваць такую сетку маршрутаў, тарыфы і інтэрвалы руху, якія б задавальнялі народ. З другога боку, свае інтарэсы маюць перавозчыкі, якія павінны забяспечыць паўнавартасныя транспартныя паслугі і пры гэтым зарабіць. Адначасова рынак перавозак павінен мець цывілізаваныя правілы гульні з празрыстай фіскальнай палітыкай і гарантыямі бяспекі руху, што часта не падабаецца перавозчыкам. Нярэдка ўсё роўна і пасажырам, абы хутка і танна даехаць з пункту А да пункту Б. Але калі не даязджаюць праз аварыі або калі знікаюць нейкія непрыбыльныя для перавозчыка маршруты, то тут ужо гучаць прэтэнзіі да ўладаў, якія дапусцілі гармідарную вольніцу кіроўцаў або не дбаюць пра сацыяльныя стандарты для грамадзян.

Вось і ў згаданай вышэй Оршы ўрадавы Комплекс захадаў па рэалізацыі Праграмы развіцця Аршанскага раёна да 2023 года пастанавіў знізіць выдаткі ў 2019 годзе на 5%, а мясцовы аўтобусны парк №3 з ухвалы «Віцебскаблаўтатрансу» распрацаваў план на 2%. Але і пры гэтым практычна ўсе маршруты, якія абслугоўваюцца аўтапаркам, стратныя. Адначасова прычына і следства — «страта даверу пасажыраў і аддаванне імі перавагі прыватным перавозчыкам». Пасажыраў у аўтобусах ездзіць столькі, што выручка ад прададзеных квіткоў не пакрывае выдаткі на перавозку. Гледзячы ж на даклад Камітэта дзяржкантролю, выпраўляць сітуацыю будуць якраз з дапамогай прыватнікаў.

Кантралёры наракаюць, што «маршруты з нізкім пасажырапатокам не размеркаваныя рацыянальна паміж філіялам і прыватнымі перавозчыкамі, у выніку перавозку па шэрагу сацыяльных маршрутаў ажыццяўляе толькі філіял».

У прынцыпе, многія прыватнікі, з якімі мы пагаварылі, кажуць, што гатовыя браць у свой расклад па адным так званым сацыяльным маршруце. Разлік у тым ліку на тое, што такая дэманстрацыя лаяльнасці і сацыяльнай адказнасці можа дапамагчы пры ўдзеле на права выканання міжгародніх аўтамабільных перавозак у рэгулярных зносінах.

А менавіта гэтых конкурсаў вельмі баяліся прыватныя маршрутчыкі раней, калі разгарэўся скандал у сувязі з новай рэдакцыяй закона «Аб аўтамабільным транспарце і аўтамабільных перавозках». Паводле іх, прыватныя маршруткі павінны былі перайсці ў статус рэгулярных перавозчыкаў — гэта значыць, заключыць дамовы з мясцовымі ўладамі ці аператарамі перавозак і ездзіць паводле ўзгодненых маршрутаў, графікаў і са строга вызначанымі прыпынкамі. А дазвол працаваць на пэўных маршрутах павінны былі атрымліваць праз конкурс з рознымі прафесійна-тэхнічнымі крытэрамі, якія выклікалі трывогу ў «нерэгуляраў». Яны ўбачылі намер выціснуць іх з рынку на карысць дзяржаўных перавозчыкаў, якія забяруць маршруты і пасажырскую базу. Пачаліся пратэсты, у падтрымку якіх было сабрана 80 тысяч подпісаў кіроўцаў і пасажыраў, некаторы час маршруткі нават не працавалі. Міністэрства транспарту і камунікацыяў, са свайго боку, патлумачыла змены клопатам пра бяспеку руху.

У выніку прыватныя перавозчыкі пачалі паступова пераўтварацца ў «рэгуляраў», але ў «ценю», як кажуць транспартныя ўлады, некаторыя ездзяць дагэтуль. Перыядычна іх фіксуюць і пазбаўляюць ліцэнзіяў праз суд. Дапамагаюць транспартным інспектарам у выкрыванні «рэгуляры», пільнуючы канкурэнтаў на прыпынках, дзе адбываецца высадка пасажыраў. А рабіць гэта без адмысловай карткі маршруту, якая пацвярджае права на перавозкі ў рэгулярных зносінах, забаронена.

Перыядычна і пакуль без скандалаў праходзяць уласна і конкурсы на такое права — за выкананне розных крытэраў прэтэндэнтам налічваюць пэўную колькасць пунктаў. Напрыклад, за вонкавы выгляд буса — ад 1 да 3 пунктаў, за гады досведу працы — ад 1 да 5, за наяўнасць кандыцыянера ў салоне — 1, за мяккія крэслы, рамяні бяспекі і відэарэгістратар — па 2, адмінусуюць пункты за парушэнні ліцэнзійнага заканадаўства, няспраўнасці буса і парушэнні ПДД. Так што адпавядай — выйгравай і працуй!

# Справядлівыя талоны

Кірыла ПАЗНЯК

**Здаецца, транспартныя ўлады саспелі, каб больш грунтоўна рэфармаваць сістэму аплаты праезду, і пры гэтым зрабіць яе прасцейшай.**

Падчас нядаўняй прамой тэлефоннай лініі з грамадзянамі старшыня Мінскага гарвыканкама Анатоль Сівак анансаваў разгляд сталічнымі ўладамі пытання пра ўвядзенне дыферэнцыяваных тарыфаў на праезд у грамадскім пасажырскім транспарце. А менавіта пра такую сістэму, калі аплата ўстанаўліваецца не за адну якую-кольвек паездку аўтобусам, трамваем, тралейбусам ці на метро (зайшоў — праехаў — выйшаў), а за пэўны прамежак часу ці пераадоленую адлегласць. Разбяромся: якім чынам гэта мяркуецца зрабіць і як чаканыя змены адаб'юцца на нашых выдатках і зручнасці перасоўвання.




## Тарыфная галаваломка

Уласна дыферэнцыяцыя тарыфаў ужо маецца, прычым яе аж занадта! Ёсць, напрыклад, тарыфы на пэўны перыяд часу (1, 2, 3, 10, 15, 30 і 90 сутак) без ліміту паездак і тарыфы па колькасці паездак (10, 20, 30, 40, 50, 60 і 100), якія запісваюцца на бескантактных смарт-картцы. З улікам таго, што кошты ўстанаўліваюцца для розных відаў транспарту асобна і для камбінацыяў некалькіх відаў, усяго ў выніку налічваецца больш за 180 тарыфных пазіцыяў. Галаву зламаць можна ў такой заблытанай сістэме! Але пры гэтым няма менавіта простых квіткоў з хвіліннымі лімітамі і на папяровых носьбітах, якія з вялікай верагоднасцю сталі б вельмі папулярныя як для жыхароў, так і для гасцей сталіцы. Адна красамоўная лічба, якая сведчыць у падтрымку такога прагнозу і пра складаную існуючую сістэму: 40% пасажыраў у Мінску ездзяць грамадскім транспартам па аднаразовых талончыках.

Сістэма, пра якую задумаліся транспартныя ўлады, дзейнічае ў шмат якіх краінах. Вось, напрыклад, як яна ўладкаваная ў суседняй Польшчы — у прыватнасці, у Варшаве. Там ёсць прапанова 20-хвіліннага білета, які дае права праезду цягам гэтага адцінка часу ў першай (умоўна горад) або другой (умоўна ўскраіны) зоне сталіцы Польшчы. На любым відзе транспарту. З магчымасцю перасадкі. Коштам 3,4 злотага (1,8 нашага рубля). Калі гэтага часу на тое, каб дабрацца да патрэбнага пункту недастаткова, купляйце квіток на 75 хвілінаў за 4,4 злотага (2,4 рубля) або на 90 хвілінаў ужо з магчымасцю праезду ў абедзвюх зонах — за 7 злотых (3,8 рубля). Квіткі пачынаюць дзейнічаць з моманту іх першага кампасціравання. Суткавы квіток з правам перасоўвання ў адной зоне каштуе 15 злотых (8,2 рубля), у дзвюх — 26 злотых (14,3 рубля).

Гледзячы на развагі нашых чыноўнікаў транспартнай галіны, яны таксама схільныя да ўстанаўлення часавых коштаў на талончыкі, а не паводле адлегласці. У прыватнасці, разглядаецца варыянт з'яўлення квіткоў на праезд наземным грамадскім транспартам цягам 30 і 60 хвілінаў з магчымасцю перасадак. Хаця б прыкладныя кошты такіх квіткоў пакуль не называюцца.

## Адзіны праязны

Яшчэ будуць прыкідваць-калькуляваць сталічныя транспартнікі і датычна кошту адзінага праязнога для ўсіх відаў грамадскага пасажырскага транспарту. Так, нарэшце можа з'явіцца і ён, а блытаніна з цяперашнімі тарыфамі знікне. У згаданай Варшаве, дый не толькі там, доўгатэрміновыя праязныя — акурат адны для ўсіх відаў транспарту: метро, трамвай, розныя віды транспарту, апрача тарыфнай галаваломкі, могуць ствараць шэраг іншых нязручнасцяў. Напрыклад, электробусы могуць курсіраваць і па аўтобусных, і па тралейбусных маршрутах. А неўзабаве ў Мінску стане шмат бескантактных тралейбусаў «МАЗ» без звыклых «рогаў». Не кожны пасажыр разбярэцца, што гэта не аўтобус. Нарэшце, падчас рамонтных працаў ці масавых мерапрыемстваў можа змяняцца схема працы грамадскага транспарту — і адзін яго від можа часова замяняць другі...

А цяперашняя сістэма з аднаразовымі талончыкамі папросту несправядлівая: адзін пасажыр па квітку коштам 60 капеек праедзе некалькі прыпынкаў часткі свайго маршруту, а потым будзе змушаны перасаджвацца і «прабіваць» іншы квіток, а другі пасажыр будзе ехаць па адным талоне цягам гадзіны два дзясяткі прыпынкаў. Такая сітуацыя і правакуе язду ў

**Падобныя планы ўжо анансаваліся пяць гадоў таму. Дыферэнцыяваная аплата праезду павінна была быць уведзеная спачатку на прыгарадных маршрутах, затым у метро, і да канца 2015 года ахапіць увесь грамадскі транспарт Мінска**

аўтобус. Плюс — прыгарадныя цягнікі, якія інтэграваныя ў сістэму варшаўскага грамадскага транспарту. Адпаведна, у прыгарадных цягніках дзейнічаюць і кароткатэрміновыя квіткі.

Эксперт па транспарце ініцыятывы «Разумны горад» Кірыла Сінюціч, які раней працаваў у арганізацыі «Сталічны транспарт і сувязь», кажа, што ўжо даўно наспеў час на ўзор многіх еўрапейскіх краінаў адмовіцца ад размежавання праязных дакументаў па відах транспарту. Хіба можна пакінуць толькі падзел на метро і наземны транспарт. Праязныя на якасці «зайцоў». Сістэма аплаты праезду з дыферэнцыяванымі тарыфамі павінна акурат скараціць колькасць безбілетнікаў. Чаму б не змагацца з імі таксама эканамічнымі спрыяннямі, а не толькі карнымі захадамі з дапамогай кантралёраў?

Ёсць і перасцярогі. Каб належным чынам дзейнічалі часавыя квіткі ў грамадскім транспарце, ён павінен курсіраваць строга па вызначаным графіку, што ў «гадзіны пік» не заўжды атрымліваецца. А нават тыя вылучаныя дарожныя палосы для грамадскага транспарту, прыярытэт для аўтобусаў і тралейбусаў не забяспечваюць.

Кірыла Сінюціч не бачыць у гэтым праблемы. Трэба ўстанавіць толькі правіла, якое дзейнічае, напрыклад, у Вільні. Там пасажыр не павінен плаціць штраф, калі тэрмін дзеяння яго квітка скончыўся, а ён не паспеў даехаць да патрэбнага прыпынку з прычыны паломкі грамадскага транспарту, ДТЗ ці корку, хаця па графіку руху павінен быў.

## «Даражэй, чым на маршрутцы»

Кірыла Сінюціч прапануе іншы падзел квіткоў па часе іх дзеяння — 15, 60 і 90 хвілінаў, а каштаваць яны маглі б прыблізна 45, 70 капеек і 1 рубель: «15-хвілінныя квіткі — гэта для тых, каму трэба праехаць зусім кароткую адлегласць, хто цяпер кажа, як заходзяць кантралёры: «Мне праехаць толькі прыпыначак!». 60-хвілінны квіток падыдзе, каб даехаць з аднаго пункту ў Мінску ў любы іншы, выкарыстоўваючы пры гэтым і метро. 90-хвілінны квіток спатрэбіцца для паездак за МКАД». Дарэчы, эксперт таксама прапануе разгледзець магчымасць занальнай аплаты праезду па аналогіі з той самай Варшавай ці Масквой. Зонай №1 можа быць Мінск, а зонай №2 — Мінскі раён. Ну і пры гэтым такія талончыкі, як і праязныя, не павінны падзяляцца па відах транспарту.

«Мінсктранс» пакуль думае: будуць такія квіткі запісвацца на бескантактныя смарт-карткі ці друкавацца на паперы. Хаця для зручнасці тых, хто не штодня ездзіць грамадскім транспартам, а таксама турыстаў і гасцей сталіцы, папяровы варыянт падаецца больш аптымальным. Мінскія чыноўнікі ж хочуць наогул пазбавіцца паперы, а аплата праезду карткамі дазваляе весці ўлік і вывучаць пасажырапаток, каб як мага больш аптымальна развіваць рух грамадскага транспарту.

Ва ўнісон з экспертамі просяць рэформы сістэмы аплаты праезду і самі пасажыры: нядаўна з'явілася петыцыя, звернутая да Мінгарвыканкаму і «Мінсктрансу». Патрэба ў існаванні лінейкі тарыфаў праязных квіткоў з сумяшчэннем розных відаў грамадскага транспарту па часе абгрунтоўваецца ў петыцыі такім чынам: «Многія жыхары горада на працу/ з працы, на вучобу/ з вучобы дабіраюцца на некалькіх (двух і болей) відах транспарту. Аплачваць неабходна кожную паездку, нават калі трэба праехаць адзін прыпынак на адным з відаў транспарту. Часцяком кошт дарогі атрымліваецца даражэйшы, чым у прыватных перавозчыкаў у маршрутных таксі».

Прапанова-выснова такая: «Увесці новы тарыф праезду ў мінскім грамадскім транспарце на 20, 75 і 90 хвілін. Пры гэтым просім улічыць, каб кошт дадзеных білетаў быў ніжэйшы за эквівалент кошту праезду пры выкарыстанні 2–4 відаў транспарту цяпер». Выказваецца ўпэўненасць, што ўвядзенне новага тарыфу не пацягне за сабой істотныя выдаткі з бюджэту, бо гэта не патрабуе ўсталявання новых прыладаў: валідатары ўжо адзначаюць на талоне час і дату паездкі.

Цяжка сказаць, калі можа быць распрацаваная і ўкаранёная такая сістэма. Бо падобныя планы ўжо анансаваліся дырэктарам дзяржустановы «Сталічны транспарт і сувязь» Валерыем Шкуратавым пяць гадоў таму. Дыферэнцыяваная аплата праезду ў залежнасці ад адлегласці ці часу павінна была быць уведзеная спачатку на прыгарадных маршрутах, затым у метро, а пасля да канца 2015 года ахапіць увесь грамадскі транспарт Мінска. Так што абяцанага, перафразуючы прыказку, дачакаемся праз пяць гадоў — у 2020-м?

**Самая даступная праца ў галіне грамадскага пасажырскага транспарту — кантралёрам. Але даступная — не значыць лёгкая. І фізічна, і псіхалагічна. Таму і цякучка кадраў сярод працаўнікоў кантрольна-рэвізорскай службы, як гэта гучыць на штатна-бюракратычнай мове, уражвае маштабамі.**



Фота www.intex-press.by

# Кантралёр — гэта гучыць нервова

Вольга БУЖАВА

У 2018 годзе ў «Мінсктранс» уладкаваліся на пасаду кантралёра 236 асобаў, а звольніліся 207! Гэта пры тым, што ўсяго на сталічных маршрутах працуюць каля 350 чалавек. Некалькі знаёмых журналісткі «Новага Часу» нейкі час таму працавалі ў брыгадах кантралёраў і распавялі пра нюансы жыцця-быцця транспартных рэвізораў.

### Хто ловіць «зайцоў»?

Наталля распавядае, што падалася ў кантралёры пасля дэкрэтнага адпачынку: «У сям'ю патрэбныя былі грошы. Фірма-крама, дзе я працавала прадаўцом да родаў, развалілася, а суседка працавала кантралёрам. Ну і параіла мне. Сама яна дагэтуль «кантроліць», вось ужо гадоў дзесяць. Пра цякучку кадраў, натуральна, казала. Што некаторыя па два дні, па тыдні вытрымліваюць — ды ўцякаюць. Але ж я на касе ў краме шмат камунікавала з тысячамі пакупнікоў, таму да рознага народу звыклая. І да п'яных, і да хамаў, і да заляцальшчыкаў, і да дзівакаватых».

З ахвотнымі праводзіцца сумоўе, у тым ліку пры ўдзеле псіхолага, а таксама экзамен пасля інструктажаў і выпрабавальнага тэрміну. У вакансіях абавязковае патрабаванне — камунікабельнасць і нервовая ўраўнаважанасць. У свежых снежаньскіх прапановах абяцаюць 850 рублёў заробку. Гэта плюс-мінус. Бо залежыць ад колькасці праверанных адзінак перасоўнага саставу, а нарматыў — 40 за 8-гадзінную працоўную змену. Прэміі можна атрымаць за выпісванне штрафных квітанцыяў — тобок, дзейнічае заахвочвальны прынцып. Таму добры для пасажыраў кантралёр, які́я паспачувае безбілетніку, даруе і пакіне ў спакоі, будзе так сабе зараблялынікам і дрэнным працаўніком для транспартнай арганізацыі. Тым больш, што мэта — не проста выкрыць і аштрафаваць «зайцоў», а прывучыць грамадзян законапаслухмяна плаціць за праезд.

Сацыяльныя бонусы для кантралёра — магчымасць займець пуцёўку ў дзіцячы аздараўленчы лагер і санаторый. Трэба мець адукацыю, не ніжэйшую за сярэднюю, і гатоўнасць працаваць пазменна, у тым ліку ў выхадныя і святочныя дні. Дарэчы, клічуць і студэнтаў на падпрацоўку ў вольны ад вучобы час.

Апрача добрых нерваў, патрабуюцца тактоўнасць у размовах з пасажырамі і здольнасць працаваць ва ўмовах аўдыё- і відэакантролю. Відэарэгістратары прыдадуцца на выпадкі канфліктных сітуацый з пасажырамі, каб разбірацца, хто мае рацыю, а хто вінаваты. А таксама пры разглядзе скаргаў кіраўніцтвам ці нават у судзе.

«Першая змена стартавала і ў 5, і ў 6 гадзіны раніцы. Зрэшты, пакрысе пад такі расклад арганізм падладжваецца, — працягвае былая кантралёрка Наталля. — Аднак не кожны вытрымлівае такую дастаткова жвавую працу на нагах, асабліва калі ёсць нейкія хранічныя хваробы. Я ў выніку якраз сышла праз праблемы з сасудамі. Ну і нічога добрага няма, калі ты ўвесь час знаходзішся каля аўтамабільных выкідаў. Гэта дадатковая шкоднасць, апрача таксічных кантактаў з некаторымі пасажырамі».

Гэты крайні бок кантралёрскай працы многія маглі бачыць у скандальных відэароліках, якія перыядычна з'яўляюцца ў інтэрнэце. Напрыклад, з лаянкай ці бойкамі паміж пасажырамі і кантралёрамі. «Гэта толькі вяршыня айсбергу. У сэнсе, самыя крытычныя сітуацыі, але наогул канфліктаў адбываецца шмат. Могуць і накрычаць, і штурхануць. Асабліва калі працуеш у другую змену: людзі едуць стомленыя з працы, некаторыя нападпітку, — кажа суразмоўца «Новага Часу». — Зрэшты, я заўжды старалася гасіць канфлікты, пачынаючы ад "калі ласка" ў звароце з просьбай паказаць аплату праезду або аплаціць штраф. Але самае галоўнае — імкнулася трымаць сябе так, што я проста раблю сваю справу: ажыццяўляю належны кантроль за парадкам, а не выконваю нейкую карную функцыю, не палюю на "зайцоў", каб аштрафаваць. Можа, таму, што памятаю, як у юнацтве мы, безбілетныя, пільнавалі кантралёраў і як гэта было стрэсава».

### Хітрыкі безбілетнікаў

Вікторыя Паўлаўна прапрацавала кантралёрам усяго некалькі месяцаў: «Ай, гэта зусім не маё! І ўзімку я туды сунулася, а вельмі холадаўразлівая. І праца нецікавая: ходзіш і, як дзяцел, паўтараеш: «Ваша аплата праезду!» Толькі спачатку было цікава назіраць рэакцыі людзей на цябе ў форменнай камізэльцы, а таксама іх хітрыкі і апраўданні, чаму яны едуць без праязнога ці талончыка».

Натуральна, бываюць тыя, хто «папросту забыў прыкласці "пластык" БСК да валідатара ці пракампасціраваць там талончык». Але звычайна фраза «патэлефанавалі, трэба было адказаць, а таму не паспеў аплаціць» — гэта распаўсюджаны падман кантралёраў, які не спрацоўвае. Як і заява, што «вось якраз іду да кіроўцы купляць талончык», бо, паводле правілаў, дзеля яго набыцця трэба заходзіць у пярэднія дзверы да кабіны кіроўцы.

Большасць безбілетнікаў — свядомыя неплацельшчыкі: «У многіх тактыка такая: не плаціць больш выгадна, бо бывае рэдка, калі цябе злавяць кантралёры. Ну, заплаціш штраф нават некалькі разоў на месяц. Я такіх пасажыраў называю побытавымі эканамістамі. Яны спакойна рэагавалі, калі мы заходзілі і блакавалі валідатары, быццам бы ў кашальку былі прыпасеныя грошы на такі штрафны выпадак. Шмат тых, хто пільнуе нас праз вокны, каб выскачыць на вуліцу ў патрэбны момант. Прычым, гэта не толькі студэнты, якіх, калі зловіш, прыкідваюцца шкалярамі, а і часам салідныя мужчыны. Калі выпісваеш "зайцу" штраф, то пасажыры, якія аплацілі праезд, на баку кантралёраў. Могуць і паўшчуваць, нават калі безбілетнік скардзіцца на эканамічную палітыку Лукашэнкі, і яны згодныя з ім».

**Павелічэнне з новага года штрафу за безбілетны праезд наўрад ці напалохае «зайцоў». Ён вырастае не ў разы, каб істотна скарацілася колькасць безбілетнікаў, а нязначна, у звязку з узняццем памеру базавай велічыні**

Дарэчы, у аўтобусах, тралейбусах ды трамваях дастаткова часта можна назіраць спажывецка-салідарніцкія дзеі, калі пасажыр, выходзячы з салона, пакідае на акне свой талончык або передае яго ў дзвярах пасажыру, які заходзіць. Па словах Вікторы Паўлаўны, было некалькі выпадкаў, калі ёй такім чынам удзень паказвалі падабраныя ў салоне талончыкі, пракампасціраваныя раніцай.

Дарэчы, Наталля падказала нам шматтысячныя антыкантралёрскія мінскія супольнасці ў сацыяльных сетках, у якіх у анлайн-рэжыме паведамляецца пра перамяшчэнні брыгадаў кантралёраў, а таксама даюцца парады, як абмінаць сустрэчаў з імі. Вось, напрыклад, лайфхак наконт таго, дзе самае найлепшае месца для пільнавання кантралёраў у салоне: «Паводле гутарак з самімі кантралёрамі пераконваешся, што гэта задняя частка транспарту: калі кантралёры будуць заходзіць, заўважыш і выйдзеш. Калі зойдуць праз пярэднія дзверы, праверка можа да цябе не дапяць да наступнага прыпынку». Болей за ўсё шанцаў збегчы ад кантралёраў у трамваях, уваход у якія з высокімі прыступкамі, а значыць, болей часу сыходзіць у кантралёраў, каб зайсці ў салон.

Яшчэ адзін спадарожны лайфхак — сказаць, што маеш буйную грашовую купюру, хацеў купіць талончык у кіроўцы, а ў яго не было рэшты. Тут спадзяванне, што кантралёр не пойдзе ад вас з задняй часткі салона і ў «час пік» да кіроўцы спраўджваць такую версію. А вось тлумачэнне, што «ішоў якраз купляць талончык у кіроўцы» не спрацуе.

З гэтага кастрычніка супраць «зайцоў»-выскачак кантралёры ўжываюць новую тактыку: яны атрымалі права спыняць грамадскі транспарт, калі дазваляе дарожная сітуацыя, паміж прыпынкамі. Уваходзяць праз пярэднія дзверы, а астатнія не адчыняюцца, блакуюць валідатары — і ніхто безбілетнік не падзенецца.

А вось павелічэнне з новага года штрафу за безбілетны праезд наўрад ці напалохае «зайцоў». Ён вырастае не ў разы, каб істотна скарацілася колькасць безбілетнікаў, а нязначна, у звязку з узняццем памеру базавай велічыні. Яна вырасце з 25,5 да 27 рублёў. Штраф за безбілетны праезд складае 0,5 — 1 базавай. Звычайна штрафуюць на палову базавай — 13,5 рубля.

І, на ўсялякі выпадак, нагадаем прававыя нюансы ў сувязі з безбілетным праездам. Калі «заяц» прызнае сябе вінаватым і гатовы аплаціць штраф тут жа, то пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні не складаецца, а выдаецца адмысловая квітанцыя. Калі безбілетны пасажыр адмаўляецца плаціць штраф на месцы і не хоча паказваць або не мае пры сабе пашпарту, то выклікаецца міліцыя і складаецца пратакол аб «адміністрацыйцы». А гэта вам трэба? Прыгадайма выпадак з прэс-сакратаркай Аб'яднанай грамадзянскай партыі Ганнай Красулінай, якую хацелі выслаць як расіянку з Беларусі за некалькі адміністрацыйных правапарушэнняў, сярод якіх была і несвоечасовая аплата праезду. Дый наогул, права і парадак пачынаюцца ці не з такіх дробязяў, як банальнае кампасціраванне талончыка.




Ness Kerton / AFP

# Пальмы, пляжы, незалежнасць

Алег НОВІКАЎ

**Чаму падзеі на далёкім ціхаакіянскім востраве Бугенвіль, якія днямі прагаласаваў за незалежнасць, могуць мець наступствы для еўрапейскага кантыненту?**

«Ці хочаце вы далей заставацца папуасамі?» — так іранічна можна перафразаваць пастаноўку пытання на рэферэндуме, які адбыўся на пачатку снежня на Бугенвілі — найбуйнейшым востраве ў групе Саламонавых астравоў, што ўваходзіць у склад Папуа — Новай Гвінеі.

Гэты рэферэндум — не першая спроба астраўлянаў атрымаць суверэнітэт ад папуасаў. Незалежнасць на Бугенвілі намагаліся абвясціць у 1975 і 1990 гадах. Спроба 1990-га вылілася спачатку ў крывавую мясарубку, а пасля ў марскую блакаду, ад якой памерлі каля 15 тысяч чалавек. Умовай для часовага міру стала большая аўтаномія для вострава і згода цэнтра на правядзенне з часам плебісцыту наконт суверэнітэту.

Гэтым разам спроба дамагчыся незалежнасці абышлася без крыві. Па выніках падліку 181 тысячы выбарчых бюлетэняў, амаль 177 тысяч чалавек (больш за 97 працэнтаў) прагаласавалі за незалежнасць, і толькі тры тысячы — за захаванне статус-кво.

Асноўным драйверам незалежніцкіх настрояў лічыцца мясцовая шахта Panguna — адзін з найбуйнейшых у свеце медна-залатых руднікоў. У свой час аж дзве трэціны бюджэту Папуа — Новай Гвінеі фарміравалася за кошт прыбыткаў з Panguna, што стварыла цэнтральнаму ўраду ў вачах мясцовых жыхароў імідж паразітаў. Урад Папуа — Новай Гвінеі спрабаваў збольшага стрымаць сепаратысцкі элемент за кошт жаўнераў з замежных прыватных вайсковых фарміраванняў, але, як засведчылі вынікі апошняга рэферэндуму, безвынікова.

Праўда, рэферэндум мог і не адбыцца. У Порт-Морсбі (сталіцы Папуа — Новай Гвінеі) заявілі пра адсутнасць у бюджэце неабходных для яго правядзення грошай. Арганізатарам апытання дапамагло замежжа. Акушэрамі незалежнасці Бугенвілю называюць ЗША, Аўстралію, Новую Зеландыю і Японію, якія прафінансавалі правядзенне плебісцыту, выклаўшы каля 7 мільёнаў долараў ЗША. Наглядальнікам на выбарах, дарэчы, выступіў экс-прэм'ер Ірландыі.

Унёсак Вашынгтона і саюзнікаў у незалежнасць выспы тлумачаць рэгіянальнай канкурэнцыяй з Кітаем, які даўно ўключыў паўднёвую частку Ціхага акіяну ў сваю стратэгічную ініцыятыву Belt and Road Initiative. У гэтую восень Пекін запісаў сабе ў актыў шэраг перамог. У прыватнасці, Кітаю ўдалося наладзіць дыпламатычныя зносіны з дзвюма ціхаакіянскімі дзяржавамі — Саламонавымі астравамі і Рэспублікай Кірыбаці. Перадумовай для абмену пасламі стала адмова абодвух згаданых краін ад дыпламатычных кантактаў з Тайванем, дзяржаўнасць якога Пекін не прызнае.

**Бугенвіль трапіў у фокус увагі ўсіх сепаратыстаў планеты. Для іх мараль відавочная: межы ў сучасным свеце — рэч непастаянная, і вызначаюцца яны толькі здольнасцю дзяржавы ўтрымліваць свае тэрыторыі**

Лічыцца, што абвяшчэнне незалежнасці Бугенвілю стрымае амбіцыйныя планы Пекіна. У тым ліку гэта агідная поўха па прэстыжы ўрада Папуа — Новай Гвінеі — самага буйнога рэгіянальнага кітайскага партнёра. Прэм'ер краіны папрасіў паўзу, каб асэнсаваць сітуацыю, якая склалася. Так ці інакш, паводле дамовы, канчатковы лёс Бугенвілю залежыць ад рашэння нацыянальнага парламента.

Пакуль у Порт-Морсбі і ў Пекіне чухаюць патыліцы, Бугенвіль трапіў у фокус увагі ўсіх сепаратыстаў планеты, у тым ліку і еўрапейскіх. Для іх мараль апісанай гісторыі відавочная: межы ў сучасным свеце — рэч непастаянная, і вызначаюцца яны толькі здольнасцю дзяржавы ўтрымліваць тэрыторыі ў сваім складзе.

Найбольш эмайцыйна каментуюць падзеі на выспе ў Шатландыі. Тут шмат хто абураны планамі Лондана ўжо ў студзені рэалізаваць Brexit. Шатландцы, якія ў большасці за еўрапейскі выбар, збіраюцца застацца ў складзе ЕС праз абвяшчэнне незалежнасці. Прычым Эдынбург абяцае правесці адпаведны плебісцыт як мага хутчэй — і магчыма, нават не маючы фармальнай санкцыі з Даўнінг-Стрыт.

Казус Бугенвілю яшчэ больш мабілізуе на рашучыя крокі. «Незалежнасць Бугенвілю мусіць узгадніць урад Папуа — Новай Гвінеі. Калі той адмовіць астраўлянам, то справа пяройдзе на разгляд Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, статут якой гарантуе правы народу на самавызначэнне. Такім чынам, можа ўзнікнуць юрыдычны прэцэдэнт, калі любая нацыя можа патрабаваць суверэнітэту, звярнуўшыся ў інстытуты ААН», — піша на старонках The Guardian адзін з лідараў шатландскіх нацыяналістаў.

З іншага боку, у кітайцаў, як адзначае нямецкі Tageszeitung, яшчэ ёсць варыянт пакінуць выспу ў арбіце свайго ўплыву. Паводле ацэнак спецыялістаў, для перазапуску працы на шахце Panguna трэба 4,5 мільярда долараў. Зрабіць такую салідную інвестыцыю пакуль здольны выключна Пекін, што можа ўсур'ёз паслабіць сепаратысцкія настроі. Як вынік, незалежнасць Бугенвілю можа скончыцца, так, па-сутнасці, і не пачаўшыся.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Гергей Карачонь



Мэр венгерскай сталіцы, адзін з лідараў мясцовай лева-ліберальнай апазіцыі запрасіў у Будапешт мэраў гарадоў сталіц аб'яднання «Вышаградская чацвёрка», куды ўваходзяць Венгрыя, Польшча, Чэхія і Славакія.

Усе мэры сталіц пералічаных дзяржаў з'яўляюцца лібераламі і супрацьстаяць папулісцкім і еўрафобскім партыям, якія дамінуюць у палітычным ландшафце ў сваіх краінах. Па выніках саміту, які скончыўся 16 снежня, быў падпісаны Пакт аб свабодных гарадах. Па сутнасці, ён прадугледжвае стварэнне ўнутры «Вышаграду» субаб'яднання, якое будзе арыентавацца на Брусель. «Сёння чатыры гарады ўтвараюць саюз супраць нацыяналістычных папулісцкіх рэжымаў, якія душаць дэмакратычныя рэгіёны. Нашы гарады — гэта выспы, якія абараняюць дэмакратычныя каштоўнасці ў нашых краінах ад цэнтралізаванай улады», — заявіў мэр Будапешту падчас імпрэзы.

У прынцыпе, усё гэта гучала б хутчэй дэкларатыўна, калі б не адзін аспект. Аўтары Пакта заклікаюць Еўрасаюз перагледзець схему фінансавай падтрымкі краін Усходняй Еўропы з еўрапейскіх фондаў. На іх думку, большасць сродкаў павінна ісці органам мясцовага самакіравання, а не цэнтральным урадам.

Пакуль кіраўніцтва ЕС не каментуе ініцыятыву мэраў. Між тым, у прэсе адзначаюць, што саюз ліберальных мэраў «Вышаграду» з'яўляецца гарантыяй таго, што гэты рэгіён застанецца ў складзе ЕС.

### Рэджэп Таіп Эрдаган



На фоне абвастрэння адносінаў паміж Вашынгтонам і Анкарой прэзідэнт Турцыі гатовы на арыгінальны ход. Пасля таго, як Сенат ЗША прызнаў генацыд армянаў у асманскай Турцыі ў 1915 годзе, Эрдаган заявіў, што яго краіна можа адказаць сіметрычна: афіцыйна прызнаць генацыд індзейцаў у ЗША.

Увогуле, паводле падлікаў гісторыкаў, каля 55 мільёнаў карэнных жыхароў загінулі пасля заваявання Амерыкі еўрапейцамі, якое пачалося ў канцы XV стагоддзя. Праўда, яны лічаць, што большасць тых смяротных выпадкаў былі выкліканыя хваробамі — карэнныя жыхары не змаглі выпрацаваць імунітэт да еўрапейскіх хваробаў. Таксама цяжка ў колькасным вымярэнні канчаткова вызначыць ролю Злучаных Штатаў у знішчэнні індзейцаў. З іншага боку, прыкладна палова плямёнаў у Паўночнай Амерыцы, якія жылі тут да прыходу белых, сапраўды знікла.

Таму адразу заявіць пра генацыд індзейцаў у туркаў не атрымаецца. Спатрэбіцца, як мінімум, слуханні гісторыкаў і парламентарыяў. Між тым, расійскія пуцінскія медыя, як не дзіўна, асудзілі ідэю Эрдагана. Прызнанне генацыду індзейцаў у ЗША, на іх думку, стварае прававы прэцэдэнт для крытыкі расійскай каланіяльнай палітыкі, ахвярай якой таксама сталі шматлікія малыя этнасы.

### Аляксандр Барадай



Першы кіраўнік Савета міністраў непрызнанай Данецкай Народнай Рэспублікі, які зараз знаходзіцца ў Расіі і кіруе Саюзам добраахвотнікаў Данбаса, зрабіў сенсацыйную заяву. Саюз, які аб'ядноўвае пад 15 тысяч сяброў — ветэранаў канфлікту на Данбасе, трансфармуецца ў палітычную партыю.

«Мы бачым істотную актывізацыю ў краіне дэструктыўных сілаў. І мы павінны быць гатовыя да больш актыўнага ўдзелу ў палітычным жыцці. Нам давядзецца заявіць пра сябе як пра суб'ект палітыкі. Мы проста рэагуем на сітуацыю, калі з Расіі хочуць зрабіць калонію», — адзначыў Барадай.

Нягледзячы на тое, што на першым этапе «добраахвотнікі» збіраюцца абмяжавацца ўдзелам у мясцовых выбарах, няма сумневаў, што ў Расіі можа з'явіцца партыя з выразным парамілітарным профілем. Нашто яна Крамлю, які безумоўна кіруе праектам? Можна дапусціць, што актывісты СДД будуць блакаваць вуліцы падчас наступных электаральных кампаній. Таксама не выключана, што «добраахвотнікаў» збіраюцца выкарыстоўваць для забеспячэння «Адзінай Расіі» большасці ў Думе па выніках выбараў 2021-га.

Пакуль апытанні паказваюць, што адзінаросы могуць пер態тварыцца ў партыю меншасці. Таму ў Крамлі, нібыта, вырашылі напярэдадні выбараў стварыць як мага больш малых партый. Практычна ўсе не пройдуць перадвыбарчы бар'ер, а іх галасы ў выніку дастануцца партыям, што трапілі ў парламент. У тым ліку «мядзведзям», што, быццам, дазволіць ім атрымаць большасць мандатаў.

# «Брацтва рускай праўды»

## Рускія манархісты ў беларускім Палессі



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Аддзел бяспекі Віленскага ваяводскага кіраўніцтва 10 студзеня 1930 года праінфармаваў палітычны дэпартамент Міністэрства ўнутраных спраў Другой Рэчы Паспалітай, што на тэрыторыі ваяводства распаўсюджваюцца ўлёткі арганізацыі «Брацтва рускай праўды».**

Тэкст адозвы быў на беларускай мове. У ёй казалася: «Беларускі тэрор — Божы меч! Імем Бога і Беларусі “Брацтва рускай праўды” — цела ад цела народа і косць ад косці народнай, абвяшчае крамлёўскую камісарскую ўладу і ўсіх яе дзейных памагатых па-за законамі Божымі і чалавечымі і заклікае ўсіх беларусаў, якія жадаюць прынесці ахвяру “За Хрыста і Бацькаўшчыну”, пачаць жорсткі і бязлітасны тэрор супраць прадстаўнікоў чырвонай улады! Не людзям служым, але Богу і Бацькаўшчыне! Беларускі тэрор — Божы меч. Хай жыве беларускі народны тэрор! Вярхоўны круг Брацтва рускай праўды».

Нягледзячы на тое, што тэкст улёткі быў па-беларуску, арганізацыя, якая распаўсюджвала гэтыя матэрыялы, стаяла на крайне манархічных пазіцыях, выступала за аднаўленне «адзінай і непадзельнай» Расіі.

### Ідэйная барацьба з элементамі тэрору

Ужо 23 студзеня 1930 года палескі ваявода інфармаваў Варшаву, што і на яго тэрыторыях назіраецца ўсплёск распаўсюду адозваў таямнічай арганізацыі. «У палове чэрвеня 1928 года жыхар вёскі Чучэвічы Лунінецкага павету Пётр Гашко атрымаў 10 экземпляраў часопіса “Руская праўда”, якія былі дасланыя поштай з Берліна. У палове снежня 1929 года солтыс вёскі Бярэжнае Столінскага павета Даніэль Закун атрымаў тым жа шляхам некалькі экземпляраў зваротаў “Загад аўтаномным атрадам Брацтва рускай праўды” і “Паўстанцкая памятка”», — адзначалася ў справаздачы польскага чыноўніка. У лютым таго ж года палескі ваявода выявіў, што жыхар мястэчка Бярозаў Столінскага павета Павал Бань атрымаў часопіс «Руская праўда», якія адаслаў у павятовую камендатуру паліцыі ў Століне. Бань не ведаў, хто дасылаў яму гэтыя выданні. На канверце стаяў парыжскі адрас.

«Брацтва рускай праўды» (далей БРП) было створана ў Берліне герцагам Рыгорам Лейхтэнбергскім, літаратарам Сяргеем Сакаловым (літаратурны псеўданім «Крэчатаў», у арганізацыі быў вядомы, як Брат №1. — І.М.), генералам Пятром Красновым і іншымі дзеячамі рускай «белай» эміграцыі, якія былі адэптамі крайняга антыкамунізму і манархізму. БРП дзейнічала ў двух кірунках: агітацыйным і паўстанцка-тэрарыстычным. Кіраваў арганізацыяй Вярхоўны круг. Ніжэй быў Асноўны круг, які займаўся выканаўчымі і прадстаўнічымі функцыямі. У арганізацыі былі тылавыя і баявыя аддзелы.

Першыя знаходзіліся ў дзяржавах, памежных з Савецкім Саюзам. Яны займаліся падрыхтоўкай кадраў і назапашваннем сродкаў. Баявыя групы змагаліся супраць бальшавікоў непасрэдна на савецкай тэрыторыі. Пры гэтым дзейнічалі яны аўтаномна і не ведалі пра існаванне іншых атрадаў. Яны знішчалі партыйных актывістаў, нападалі на цягнікі, забівалі вайскоўцаў і міліцыянтаў. Асаблівая ўвага надавалася агітацыі, якая праводзілася як сярод жыхароў памежных з СССР раёнаў, так і сярод савецкіх грамадзян (напрыклад, экіпажаў савецкіх гандлёвых караблёў ці савецкай памежнай аховы і жаўнераў РСЧА).

У агітацыйных матэрыялах людзей заклікалі супрацьстаяць мерапрыемствам савецкай улады, праводзіць антысавецкую прапаганду, забіваць чэкістаў і прадстаўнікоў савецкага дзяржапарату. Незвычайным быў заклік аб перадачы пасля перамогі над камуністамі ўсёй свецкай улады праваслаўнай царкве. У сярэдзіне 1920-х гадоў БРП стварыла радыёстанцыю ў Латвіі, што вяшчала на тэрыторыю Савецкага Саюза.

### Пінскія манархісты

Арганізацыя мела свае лагеры для падрыхтоўкі агентаў-дыверсантаў у Парыжы, Далёкім Усходзе, краінах Балтыі, Югаславіі. Паводле дадзеных Замежнага аддзела Дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення, БРП мела свае прадстаўніцтвы ў 22 краінах, у тым ліку і на тэрыторыі Другой Рэчы Паспалітай. Вялікая стаўка рабілася на беларускія антысавецкія атрады генерала Станіслава Булак-Балаховіча, а таксама на партызан «зеленадубаўцаў».



Савецкія памежнікі ў Заслаўі, 1920-я гады



Коммунизмъ умреть. Россія не умреть.

БЕЛАРУСКІ ТЭРОР — БОЖЫ МЕЧ!

ІМЕНЕМ БОГА І БЕЛАРУСІ „БРАЦТВО РУСКАЙ ПРАЎДЫ“, — ЦЕЛА АД ЦЕЛА НАРОДУ І КОСЬЦЬ АД КОСЬЦІ НАРОДНАЙ, АБВЕШЧАЕ КРЭМЛЕЎСКУЮ КАМІСАРСКУЮ УЛАДУ І УСІХ ЯЕ ДЗЕЙНЫХ ПАСОБНІКОЎ ПОЗА ЗАКОНАМІ БОЖЫМІ І ЧАЛАВЕЧЫМІ І ЗАКЛІКАЕ УСІХ БЕЛАРУСОЎ, ЯКІЯ ХОЧУЦЬ ПРЫНЯСЬЦІ АХВЯРУ ЗА ХРЫСТА І БАЦЬКОЎШЧЫНУ, ПАЧАЦЬ ПРОЦІЎ ПРАДСТАЎНІКОЎ ЧЫРВОНАЙ УЛАДЫ ЖОРСТКІ І БЯЗЛІТОСНЫ ТЭРОР! НЯ ЛЮДЗЯМ СЛУЖЫМ, АЛЕ БОГУ І БАЦЬКОЎШЧЫНЕ СЛУЖЫМ. БЕЛАРУСКІ ТЭРОР — БОЖЫ МЕЧ! ХАЙ ЖЫВЕ БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ТЭРОР!

ВЕРХОЎНЫ КРУГ БРАЦТВА РУСКАЙ ПРАЎДЫ.

Улётка БРП на беларускай мове



Сяргей Сакалоў

Ужо ў 1922 годзе ў Пінску, які польскія ўлады планавалі зрабіць сталіцай Палескага ваяводства, была створана руская манархічная арганізацыя. Сярод яе ўдзельнікаў былі і афіцэры-балахоўцы. У гэты ж час пачаліся кантакты паміж рускімі манархістамі і кіраўніцтвам беларускай паўстанцкай арганізацыі «Зялёны дуб». Акрамя гэтага з сярэдзіны 1920-х гадоў ішла актыўная супраца рускіх манархістаў з Пінску з Расійскім агульна-вайсковым хаўрусам (РАВХ). У адной са сваіх справаздач польская дзяржаўная паліцыя адзначала:

«Бібліятэка Ключановіча, што знаходзіцца пры яго кніжнай краме, ужо шэраг гадоў з'яўляецца пунктам збору расійскай нацыяналістычнай моладзі, набіраючы яе з ліку выхаванцаў мясцовай расійскай гімназіі, а таксама выпускнікоў замежных вышэйшых навучальных устаноў. [...] На чале гэтай моладзі стаяць літаратары-пачаткоўцы і «артысты», уласнік бібліятэкі і кніжнай крамы Міхаіл Ключановіч, Зміцер Майкаў, Васіль Каратышэўскі (накіраваны ў турму падчас праходжання абавязковай службы ў Войску Польскім за антыпольскія выступленні), Арсен Заяц, мастак, які прыехаў год таму з Парыжа, Павел Бурчанка і Павел Шчарбачэвіч — студэнты ўніверсітэта ў чэшскай Празе. Гэтыя людзі збіраюцца ў бібліятэцы Ключановіча з мэтай сумеснага чытання літаратурных твораў ці то аўтараў-манархістаў, якія знаходзяцца ў эміграцыі, ці то ўласных твораў і праводзяць літаратурныя, філасофскія і палітычныя дыспуты. Гуртком апякуецца інжынер Канстанцін Пятроўскі, галоўны прадстаўнік чарнасоценнага “Брацтва рускай праўды” ў Пінску, а таксама Мікалай Беразніцкі, выдавец штотыднёвіка “Пінскі голас”, якія прыцягнулі чальцоў гуртка да працы ў выдавецтве. [...] Апека над гэтай групай моладзі Пятроўскага, а таксама ўцягванне яе для працы ў часопісе, мэтай якога з'яўляецца абуджэнне нацыянальнага пачуцця сярод “рускіх сялян Палесся”, моцна паўплывала на амбіцыі моладзі, якая з яшчэ большым запалам распачала развіваць сваю нацыянальную акцыю».

Расійскі гісторык Пётр Базанаў піша, што інжынер Канстанцін Пятроўскі скончыў Санкт-Пецярбургскі інстытут шляхоў зносін, быў уласнікам маёнтку Крысцінава ў Драгічынскім павеце, а таксама займаўся будаўнічым бізнесам у Пінску. Польская паліцыя характарызавала Пятроўскага як прадстаўніка радыкальнага крыла рускай калоніі, які групуе моладзь і адначасова варожа ставіцца да польскай дзяржаўнасці. Паводле польскіх паліцыянтаў, інжынер Пятроўскі быў «непрыхаваным шавіністам і манархістам», а яго дзейнасць ішла ў накірунку «абуджэння народнага духу сярод мясцовага рускага грамадства». У 1934 годзе ён быў абраны старшынёй пінскага аддзялення Рускага дабрачыннага таварыства.

Варта дадаць, што ў пінскіх прарасійскіх выданнях Пятроўскі часта публікаваў свае опусы пра «развіццё і абуджэнне рускай самасвядомасці палешукоў у праваслаўным духу».

Беларускі даследчык Аляксандр Ільін адзначае, што галоўнымі манархістамі ў Пінску былі ўдзельнік «Кіеўскага абласнога цэнтра дзеянняў Зміцер Капацінскі (арганізатар забойства савецкага пасла ў Польшчы Пятра Войскава), былы намеснік камандуючага Каўказскай дывізіі палкоўнік Станіслаў Мацкевіч, былы віцэ-губернатар (родны брат аднаго з кіраўнікоў БРП Сяргея Палеалога) Барыс Палеалог, інжынер Мікалай Катовіч. Апошні паспеў пабудаваць у Пецярбургу будынкі Ліцейнага тэатра, кінатэатраў «Парызіяна» і «Пікадзілі».

Катовіч знаходзіўся на тэрыторыі Другой Рэчы Паспалітай з 1922 года. Акрамя дзейнасці ў БРП, ён узначальваў «Рускае дабрачыннае таварыства», а таксама «Рускае нацыянальнае аб'яднанне». У Брэсце ён узначальваў мясцовую секцыю баявой арганізацыі генерала Куцепава, працаваў галоўным архітэктарам горада на Бугу, аднак за растрату (прысабечыў 300 амерыканскіх долараў) быў зняты з пасады. Займаўся актыўнай прапагандай ідэй БРП на Палессі і распаўсюджваў выданні арганізацыі сярод насельніцтва.

Міхаіл Ключановіч па польскіх дакументах праходзіў як беларус, які ў 1920 годзе служыў у беларускіх антыбальшавіцкіх фарміраваннях. Аднак з цягам часу ператварыўся ў «рэлігійнага фанатыка», які верыў, што яго місія — барацьба супраць бальшавіцкага ладу ў Расіі з дапамогай сусветнага хаўрусу братоў-хрысціян. У справаздачы польскай паліцыі напісана: «Робіць уражанне вар'ята на фоне сваёй веры, і такім яго лічыць большасць пінскага грамадства».

Цікава, што ў сакавіку 1933 года Ключановіч выехаў на сталае жыхарства ў СССР. Там ён працаваў бухгалтарам у Чымкенцкай вобласці, але 15 верасня 1937 года быў арыштаваны НКУС, асуджаны па 58-м артыкуле і расстраляны. Актыўна супрацоўнічаў з БРП і адзін з кіраўнікоў «Зялёнага Дуба» «атаман Дзяргач» Вячаслаў Адамовіч, які з 1926 года стаў кіраўніком віленскага філіялу БРП.

## «Брацкі» тэрор

Для перакідкі на савецкі бок «братчыкі» карысталіся вокнамі на мяжы ў раёне мястэчак Ленін і Лахва. Часта яны камуфляваліся пад звычайных кантрабандыстаў. Таму разам з антыбальшавіцкай літаратурай і зброяй мелі тавары на продаж, а таксама валюту. У 1925 годзе ў адным з дакументаў АДПУ адзначалася: «Вайсковым камандаваннем на тэрыторыі Польшчы фарміруюцца банды з мэтай дыверсійных нападаў на нашу тэрыторыю. Ва ўнутраным раёне ёсць некалькі бандаў у 10–15 чалавек (усяго 14 бандаў са 113 удзельнікамі). Актыўнасць праяўляюць банды Гаршкова "Каўко" і Іванова. За мінулы перыяд варта адзначыць рабунак двух параходаў на рацэ Бярэзіна і Сож, напад на Віцебскі аэрадром, рабунак Бранскай гарадской станцыі Маскоўска-Беларуска-Балтыйскай чыгункі і касы завода "Профінтэрн" у Бежыцкім павеце Бранскай губерні».

У 1927 годзе (і пазней) у газеце «Руская праўда» друкаваліся справаздачы аб дзейнасці «зеленадубцаў» на тэрыторыі БССР. «Паміж Гомелем і Новазыбкавам адна з нашых брацкіх дружын захапіла цягнік, у якім знаходзіліся адказныя камуністы Гомельскай акругі. Трое чыноў ДПУ былі расстраляныя на месцы, а пятнаццаць чалавек захопленыя ў закладнікі. Хутка пасля гэтага падчас сутычкі паміж чырвонымі і адной з нашых дружынаў у рукі чырвоных трапілі два начальнікі дружыны, Аляксей Грушніцкі і Мікалай Абрамаў. Яны былі дастаўленыя ў Мінск і расстраляныя па загадзе Мінскага ДПУ», — пісала выданне за травень-чэрвень 1927 года. «Пад Крайскам нашая трэцяя брацкая дружына тры дні білася супраць высланага з Мінска коннага атрада ДПУ і адбіўшы яго (атаку), сышла ў лес. З жніўня братамі "Рускай праўды" спалены будынак Саўнаргасу ў Мінску», — пазначалася ў іншым нумары выдання.

Паводле меркавання некаторых даследчыкаў, гібель паўнамоцнага прадстаўніка АДПУ ў БССР і Беларускай вайсковай акрузе Язэпа Апанскага 7 чэрвеня 1927 года ля чыгуначнай станцыі Ждановічы пад Мінскам — справа рук менавіта баевікоў БРП. У выніку той трагедыі таксама загінуў кіроўца АДПУ Голубеў, а яшчэ два супрацоўнікі — Карытаў і Федасеенка — былі цяжка параненыя. Адзначым, што чэкіст ехаў з памежнай станцыі Радашковічы пасля выканання задання на савецка-польскай мяжы, дзе напярэдадні бальшавіцкія памежнікі затрымалі парушальніка кардона.

Можна ставіць пад сумнеў тэрарыстычную актыўнасць сяброў БРП на тэрыторыі савецкай Беларусі, аднак трэба браць пад увагу, што незадаволенасць бальшавікамі на гэтых тэрыторыях у другой палове 1920-х гадоў была ўсё яшчэ высокай. У выніку «рыжскага міру» людзі страцілі зямельныя надзелы, маёмасць. «Кардон» падзяліў сем'і на «сваіх» і «чужых». Да таго ж на беларускіх землях актыўна ішла вайна выведак (польскай і бальшавіцкай), і кожны жыхар Беларусі быў яе патэнцыйным удзельнікам.

Дарэчы, паводле дадзеных АДПУ, асаблівую актыўнасць «братчыкі» праяўлялі ў Слуцкай акрузе, дзе «быў створаны шэраг паўстанцкіх арганізацый і тэрарыстычных групаў, якія супрацоўнічалі з Другім (выведвальным) аддзелам польскага Галоўнага штаба». Няма нічога дзіўнага: мясцовыя жыхары памяталі Слуцкі збройны чын і жадалі паквітацца за яго паразу.

## Вершы пра фюрэра і раскол

Адзін з лідараў белаэмігранцкага руху «чорны барон» Пётр Урангель скептычна ставіўся да дзейнасці БРП і падазраваў, што шматлікія яго чальцы завербаваныя ДПУ. У 1927 годзе, у сувязі з забойствам савецкага паўпрада Пятра Войкава, польскія ўлады выслалі ў Данцыг Вячаслава Адамовіча. Яго і абвінавачвалі ў супрацы з ДПУ. Алею ў агонь падлілі вынікі праведзенай чэкістамі аперацыі «Трэст», калі ў рукі ДПУ трапіў брытанскі выведнік Сідні Рэйлі і шэраг іншых дзеячаў белаэмігранцкага і манархічнага руху.

Пасля прыходу да ўлады ў Германіі нацыстаў Сяргей Сакалоў адкрыта выказваўся ў падтрымку Гітлера. Але гэта не ўратавала «Брата №1» ад няласкі з боку нацыстаў, і хутка кіраўнік БРП вымушаны быў пераехаць з Берліну ў Парыж. У пачатку 1930-х гадоў у арганізацыі адбыўся раскол. Да гэтага прыклала сваю руку бальшавіцкае ДПУ. Шэраг чальцоў арганізацыі былі забітыя, іншыя — завербаваныя бальшавікамі. Аднак у часопісе «Руская праўда» за студзень-люты 1930 года яшчэ распавядалася пра «сялянскае паўстанне ў Бабруйскай акрузе, якое каардынавалі брацкія дружыны». Там, нібыта, «дзве дружыны некалькі месяцаў трымалі раён мястэчка Любань і пагражалі захопам Бабруйска».

Пры тым агенты БРП працягвалі выведвальную дзейнасць супраць бальшавікоў. У лістападзе 1931 года на савецка-польскай мяжы былі затрыманы начальнік групы «Брацтва» ў Баранавічах, былы кіраўнік контрвыведкі войска Станіслава Булак-Балаховіча палкоўнік Шклярэўскі. На тэрыторыі БССР ён павінен быў збіраць дадзеныя аб дыслакацыі бальшавіцкіх вайсковых частак, а таксама распаўсюджваць часопіс «Рускае слова». У 1933 годзе на кардоне з Польшчай савецкія «зялёныя фуражкі» ліквідавалі групу з трох узброеных чальцоў БРП.

## Лісты з-за кардона

Дзейнасць «Брацтва» ў Пінску была накіраваная і на працу сярод перабежчыкаў з БССР і дэзерціраў РСЧА і памежнай аховы. У Цэнтральным вайсковым архіве Польшчы ў Рэмбертаве сярод дакументаў Другога аддзела Генеральнага штаба Войска Польскага (выведкі) захоўваюцца лісты савецкіх жаўнераў, якія тыя пісалі ў СССР. Напрыклад, у сакавіку 1930 года ў Пінску апынуўся радавы 8-га сапёрнага батальёна РСЧА Аляксей Ігошын. Падчас допыту, праведзенага афіцэрам 3-га батальёна польскага Корпуса аховы памежжа, чырвонаармеец паведаміў, што «падчас службы ў савецкім войску кожны дзень усё больш разумеў, што савецкая ўлада не вядзе да дабрабыту народа».



Пінск. Апоры даваеннага моста

«Кожны дзень усё горш і горш. Урад, што праводзіць усеагульную калектывізацыю, знішчае сельскую гаспадарку і вядзе да голаду. Кожны дзень мае калегі атрымліваюць лісты, дзе іх блізкія пішуць, што іх маёмасць канфіскуюць, а іх саміх могуць саслаць у Сібір. Бацька мой, які працуе на фабрыцы, пісаў, што атрымлівае 45 рублёў, і на гэтыя грошы ён не можа ўтрымаць сям'ю. Атрыманых на карткі прадуктаў не хапае. Усё гэта мяне змусіла задумацца пра тое, каб перабегчы за мяжу. У савецкую Расію вяртацца не хачу, бо я працiўнік савецкай улады», — пісана ў пратаколе допыту.

А 29 сакавіка 1930 года чырвонаармеец напісаў ліст да аднаго са сваіх саслужыўцаў у Жытомір. Вось яго тэкст: «Прывітанне шаноўны таварыш Булыгін! Дасылаю цябе свае таварыскае прывітанне. Мы жывем вельмі добра. [...]. Мая парада цябе, кідай залішнюю валакіту і ідзі да нас, да новага жыцця. Нам унушалі, што за мяжой моцнае беспрацоўе і голад, але гэтага нічога няма. Калі мы перайшлі мяжу 22 сакавіка ў 9 гадзін 40 хвілін, нас прынялі вельмі добра. Зараз мы знаходзімся ў Польшчы, у горадзе Пінску з рускімі эмігрантамі, якія нам дапамаглі з працай, і мы жывем вельмі добра. [...] Таварыш, гэты ліст ты атрымаеш з Расіі, таму што ён праз мяжу не пяройдзе, а будзе перасланы расійскімі эмігрантамі. Так што, таварыш, арганізуйся і ідзі смела».

У гэты час на тэрыторыі савецкіх Украіны і Беларусі пачалася жорсткая калектывізацыя. Ва Украіне гэта прывяло да жудаснага голаду, які наклаў свой адбітак таксама і на войска. Нават чырвонаармейцы не бачылі іншага выйсця, як бегчы «за кардон». Гэтым карысталася не толькі польская выведка, але і расійскія белаэмігранцкія арганізацыі. У той жа час з Пінску быў адпраўлены і яшчэ адзін ліст, напісаны былым чырвонаармейцам Змітром Кудраўцавым. У ім казалася: «Таварыш Марчанка! Спяшаюся Вам і ўсёй Вашай арганізацыі камсамола паведаміць, што я паспяхова, без усялякіх затрымак перайшоў мяжу і жыву цяпер у Польшчы, у горадзе Пінску. Паважаныя таварышы камсамольцы, тут, у Польшчы, жывуць вельмі добра, няма стогнаў і слёз, як у Вас, у СССР. У Вас сёння няма такога кута, дзе б не плакаў селянін. Нас прынялі тут вельмі добра. Працы дастаткова, і мая Вам парада, ідзіце сюды — і Вас прымуць добра. Не здзіўляйцеся, што ліст атрымаеце з Масквы. Я трапіў у арганізацыю рускіх, і гэтая арганізацыя патаемна перадасць гэты ліст у СССР, а там яго перашлюць Вам. Вам, бедным, палітрукі затуманілі мазгі, і вы не можаце нават валодаць сабой. Арганізуйцеся і энергічна ідзіце за мяжу. Горад Пінск, 28 сакавіка 1930 года».

Яшчэ некалькі лістоў перабежчык Кудраўцаў напісаў сябру па службе Сінёву, сваім сёстрам Зінаідзе і Таццяне. Такая карэспандэнцыя была своеасаблівым смяротным прысудам для тых, каму яна адрасавалася. Аўтар ліста для бальшавікоў быў «ворагам народа», а яго сваякі — па-за законам.

## Бальшавіцкая помста

У верасні 1939-га ў Заходнюю Беларусь прыйшлі тыя, супраць каго змагаліся чальцы БРП і ад каго ратаваліся перабежчыкі з «бальшавіцкага раю».

На працягу 1920–1930-х гадоў Замежны аддзел АДПУ, а потым і НКУС, збіралі інфармацыю аб дзейнасці і агентуры арганізацый расійскіх манархістаў, якая за міжваеннае дваццацігоддзе паспела ўкараніцца ў беларускім Палессі. Вялікую ролю ў гэтым адыграў рэзідэнт савецкай выведкі ў Польшчы з 1927 года, удзельнік аперацый «Сіндыкат-2» і «Трэст» Станіслаў Глінскі. Яму атрымалася ўвесці сваю агентуру ў белаэмігранцкія арганізацыі на тэрыторыі Другой Рэчы Паспалітай, у тым ліку і ў БРП. Да таго ж у рукі савецкіх органаў трапілі шматлікія архівы спецслужбаў і выведкі. З дапамогай дакументаў, якія там утрымліваліся, бальшавікі вышуквалі «ворагаў народа» з ліку «былых».

У выніку разгляду дакументаў архіва Баранавіцкага ўпраўлення польскай паліцыі ў поле зроку бальшавікоў трапіў Рыгор Сушчэня, якога абвінавацілі не толькі ў супрацы з польскай паліцыяй, але і ў тым, што ён быў арганізатарам і кіраўніком баранавіцкага філіялу БРП. На допытах Сушчэня прызнаўся, што ў БРП трапіў у 1929 годзе пад уплывам былога афіцэра войска Булак-Балаховіча Міхаіла Шклярэўскага. Пазней займаўся вярбоўкай новых чальцоў, а некаторыя з завербаваных ім хадзілі на тэрыторыю БССР для распаўсюджвання там «контррэвалюцыйнай літаратуры».

У верасні 1939 года ў рукі НКУС трапіў ураджэнец Ковеля Васіль Ягораў, які ў даваенны час працаваў «карэспандэнтам белагвардзейскіх газет у г. Вільня». На допытах ён сказаў, што цэнтр БРП знаходзіўся ў Берліне, а ў кіраўніцтва арганізацыі ўваходзілі атаман Красноў і мітрапаліт Антоні, а таксама Вячаслаў Адамовіч, праз якога адбывалася рассылка літаратуры БРП на тэрыторыі Польшчы.

Варта адзначыць, што расійскія «белаэмігранты» працавалі і з цывільнымі перабежчыкамі з СССР. Адзін з такіх — былы жыхар памежнага Слуцкага раёна Іван Крукоўскі, які падчас раскулачвання ў 1930 годзе вырашыў збегчы «за бугор». Аднак «карны меч пралетарыяту» ўсё ж дастаў яго. У лістападзе 1939 года, знаходзячыся пад следствам НКУС, ён прызнаўся, што быў завербаваны сяржантам польскага КАП Майскім і стаў агентам Стаўпецкай выведвальнай «пляцуўкі». Але ў 1930-я гады Крукоўскі па заданні БРП хадзіў у БССР.

У 1940 годзе НКУС знайшоў жыхара вёскі Бастынь Лунінецкага павета, татарына Аляксандра Палтаржыцкага. Падчас польска-бальшавіцкай вайны ён служыў у кавалерыйскім палку імя палкоўніка Мустафы Ахматовіча. У міжваенны час жыў на Палессі, працаваў на лесазаводзе ў вёсцы Мальковічы. Чальцом БРП Палтаржыцкі стаў у 1933 годзе. У яго сяброўскім пасведчанні пазначана «брат №50». Па артыкуле 74 Крымінальнага кодэксу БССР «за контррэвалюцыйную дзейнасць» савецкія ўлады прысудзілі яго да 8 гадоў лагерных прац, якія ён адбываў ва Унжэнскім лагеры.

У верасні 1941 года па амністыі, якая прадугледжвалася дамовай Сікорскі—Майскі, Палтаржыцкі апынуўся на волі. Далейшы яго лёс невядомы. У красавіку 1989 года Аляксандра Палтаржыцкага рэабілітавалі.

Рэпрэсіі не маглі абмінуць і кіраўніцтва «беларускага прадстаўніцтва» БРП. Адзін з яе лідараў, інжынер Канстанцін Пятроўскі быў арыштаваны НКУС 31 снежня 1940 года. Відавочна, манархіст добра валодаў тэхнікай канспірацыі, калі ў яго атрымалася хавацца ад чэкістаў больш за год пасля далучэння Заходняй Беларусі да СССР. Гэтага «ворага народа» прысудзілі да пяці гадоў знаходжання ў папраўча-працоўных лагерах ГУЛАГ, дзе ён і памёр.

У лістападзе 1939 года за выкрыццё дзейнасці БРП шэраг супрацоўнікаў НКУС БССР былі прадстаўленыя да ўрадавых узнагародаў. Гэта начальнік УНКУС Навагрудскай вобласці палкоўнік Аляксандр Місюраў, які «кіраваў ускрыццём і ліквідацыяй на тэрыторыі былога Навагрудскага ваяводства філіялаў контррэвалюцыйных арганізацый, сярод якіх было і белаэмігранцкае БРП»; лейтэнант памежных войскаў Анатоль Багачук, які ў Вільні арыштаваў членаў белаэмігранцкага «брацтва» Ягорава, Нядаматава, Мінаева і іншых; намеснік начальніка Баранавіцкага павятовага аддзела НКУС, капітан памежных войскаў Мікалай Скрабін, які ўдзельнічаў у арышце 183 агентаў былой польскай паліцыі, сярод якіх былі і чальцы БРП.

Чальцоў белаэмігранцкай арганізацыі, якія трапілі ў рукі чэкістаў у верасні 1939-га, хутчэй за ўсё, чакалі гады катаргі ў сталінскіх лагерах. Магчыма, нехта з іх уратаваўся ў 1941 годзе — надзеўшы андэрсаўскі мундзір. Лёсы іх, як і іншых ахвяр сталінскіх рэпрэсій, схаваныя ў архіўных спецсховішчах у Мінску і Маскве.

**Фота з архіву Ігара Мельнікава**

# Раман пра канец свету, які пачынаецца ў Беларусі

**У пачатку 2020 года выходзіць працяг рамана Паўла Севярынца «Беларусалім. Сэрца свята».**




Першая кніга рамана, прэзентаваная два гады таму, сабрала 300 чытачоў на прэзентацыі ў Мінску, заняла першае месца на конкурсе «Кніга года» сярод чытачоў і другое месца сярод пісьменнікаў, а таксама трапіла ў шортліст прэміі Гедройца.

Некалькі цікавых фактаў пра новую кнігу.

- 1. Аўтар працаваў над раманам у трох кнігах дванаццаць гадоў. Раман пісаўся ў «Амерыканцы», на сутках Акрэсціна, у ссылках у Малым Сітне ды Купліне.
- 2. «Беларусалім. Сэрца святла» — кніга, у аснове сюжэту якой ляжыць гісторыя росквіту Беларусі ў часы Вялікага Княства Літоўскага.
- 3. У рамане ёсць герой з імем Павел і мянушкай «Геолаг», гэта мінскі бомж. Прычыну, дзеля якой аўтар даў сваё імя і прафесію менавіта гэтаму герою, варта шукаць у хрысціянстве. Але яшчэ адзін паварот у жыцці Пашы Геолага напрыканцы кнігі прымусіць чытачоў ахнуць — і зразумець, чаму.
- 4. За час напісання рамана Севярынец паспеў ажаніцца, двойчы стаць бацькам і выдаць яшчэ шэсць кніг.
- 5. Беларусы пазнаюць у героях рамана многіх сваіх сучаснікаў. Дзеянне «Беларусаліма» пачынаецца праз некалькі гадоў пасля таго, як вы яго прачытаеце.
- 6. У кожнай кнізе раскідана каля 300 ключоў да галоўнай загадкі рамана. Калі ўважліва прыглядацца да імёнаў, лічбаў, цытатаў з Бібліі і кантэксту — вы досыць хутка расшыфруеце галоўную загадку беларускай гісторыі.
- 7. У 2010 годзе рукапіс рамана выкрадаў КДБ. Падчас спробы адксеракапіяваць рукапіс і зрабіць дублікат у мэтах бяспекі, спецслужбы ўварваліся ў кватэру, дзе стаяў ксеракс, і канфіскавалі больш тысячы старонак, напісаных Севярынцам ад рукі. Паўлу давялося пісаць серыю заяваў у Генеральную пракуратуру, міліцыю, КДБ, звяртацца да еўрапейскіх палітыкаў і праваабаронцаў, каб рукапіс вярнулі. Праз два месяцы рукапіс быў падкінуты ў кватэру без апошніх двух раздзелаў. Пасля чарговых заяваў і сустрэчаў цудоўным чынам у зачыненай кватэры апынулася і рэшта рукапісу.

Падтрымаць выданне кнігі можна на пляцоўцы ulej.by, хаця мінімальныя неабходныя для выдання грошы ўжо сабраныя. Удзел у краўдфандынгу дасць магчымасць атрымаць новую кнігу танней, да таго ж сярод лотаў вы знойдзеце магчымасць размясціць у кнізе Севярынца свой лагатып ці нават выпіць з аўтарам кубачак кавы.



# БагатаДата

**У гэтыя дні нарадзілася мноства выбітных асобаў. Народзіны Дзеда Талаша, Канстанціна Ракасоўскага, Алеся Дудара і «другі дзень народзінаў» Фёдара Дастаеўскага. Хто яшчэ што святкуе? Чытайце ў нашым традыцыйным аглядзе.**



### 21 снежня

**1894.** У Варшаве нарадзіўся славуты савецкі палкаводзец, маршал Канстанцін Ракасоўскі. Яго бацька — паляк, маці — беларуска з Целяханаў (Івацэвіцкі раён на Брэстчыне). У 1937 годзе быў звольнены з арміі, а затым арыштаваны нібыта за сувязі з польскай і японскай разведкамі. У турме яго катавалі і нават вызводзілі на расстрэл, але стралялі халастымі. У 1940-м рэабілітавалі. Менавіта Ракасоўскі камандаваў 1-м Беларускім фронтам падчас аперацыі «Баграціён» па вызваленні Беларусі ў 1944 годзе.

**1934.** У вёсцы Вялікі Бор Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці нарадзіўся пісьменнік Іван Чыгрынаў. Меў званне Народнага пісьменніка Беларусі. Працаваў старшынёй праўлення Беларускага фонду культуры, галоўным рэдактарам часопіса «Спадчына». Найбольш вядомы як аўтар рамана «Плач перапёлкі», па якім зняты аднайменны фільм. Чыгрынаў разам з Іванам Новікавым — аўтар сцэнарыя тэлесерыялу «Руіны страляюць...»

### 22 снежня

**1849.** Руская пісьменніка з беларускімі каранямі Фёдара Дастаеўскага разам з іншымі ўдзельнікамі дысідэнцкага гуртка прывезлі на Сямёнаўскую плошчу ў Пецярбургу, каб пакараць смерцю. Але ў самую апошнюю хвіліну расстрэл замянілі катаргай.

**1969.** Уведзены ў эксплуатацыю першы энергаблок Лукомльскай ГРЭС, самай вялікай цеплавой электрастанцыі ў Беларусі. Дата яго запуску была абраная невыпадкова — у Дзень энергетыка.

### 23 снежня

**1769.** У Ігумене (цяпер горад Чэрвень у Мінскай вобласці) нарадзіўся Міхаіл Рымінскі, танцоўшчык, спявак і акцёр. Быў прыгонным у Антонія Тызенгаўза, дзяржаўнага дзеяча ВКЛ, мецэната, і акцёрам у яго тэатры ў Гродне. Пасля смерці Тызенгаўза трупа стала ўласнасцю караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Рымінскі выступаў на сцэне Нацыянальнага тэатра ў Варшаве. У тыя часы ён быў самым папулярным балетным артыстам.

### 24 снежня

**1784.** У маёнтку блізу вёскі Гайна Лагойскага раёна на Міншчыне нарадзіўся этнограф Зарыян Даленга-Хадакоўскі. Сапраўднае імя — Адам Чарноцкі. Быў арыштаваны царскімі ўладамі за прыватны ліст, у якім выказвалася прыхільнасць да антыпрыгонніцкіх ідэяў Напалеона. Чарноцкага пазбавілі шляхецкага статусу і забралі ў жаўнеры. У 1811 годзе ён інсцэніраваў сваё ўтапленне і ўцёк у Варшаву, дзе ўступіў у французскую армію. Пасля паразы Напалеона быў вымушаны хавацца — і таму ўзяў псеўданім. Як Зарыян Даленга-Хадакоўскі ён шмат вандраваў з даследчымі мэтамі. У выніку яго архіў стаў самым першым багатым зборам фальклору славянскіх народаў па колькасці запісаў і ахопе тэрыторыі.

**1904.** У вёсцы Навасёлкі Петрыкаўскага раёна на Гомельшчыне нарадзіўся паэт і перакладчык Алесь Дудар. Тройчы арыштоўваўся ДПУ. Спачатку за легендарны верш «Пасеклі край наш напалам...», затым па «справе Саюза вызвалення Беларусі», а потым «як член антысавецкай аб'яднанай шпіёнска-тэрарыстычнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі». Апошні раз — са смяротным выракам.

### 25 снежня

**Божае нараджэнне паводле каталіцкай і ўніяцкай традыцыі.**

**1844.** У вёсцы Белка Петрыкаўскага раёна на Гомельшчыне нарадзіўся Васіль Талаш. Той самы Дзед Талаш, славуты партызан і народны герой. Адзначым, супраць нямецка-фашысцкай акупацыі Талаш змагаўся ў стогадовым узросце!

**1939.** Паводле пастановы Саўнаркаму БССР створаны дзяржаўны запаведнік, цяпер Нацыянальны парк «Белавежская пушча».

### 26 снежня

**1869.** У Мінску нарадзіўся класік партрэтнай фатаграфіі Маісей Напельбаум. Ён здымаў многіх знакамітасцяў — ад савецкага кіраўніцтва, будучы фактычна ўрадавым фатографам, да культурніцкага бамонду (напрыклад, пасмяротнае фота Ясеніна — яго праца). «Мінулае чалавека, яго думкі, погляды на жыццё, стаўленне да людзей пакідаюць адбітак на яго твар=ы», — казаў Напельбаум.

### 27 снежня

**1919.** У Старобіне (Салігорскі раён, Мінская вобласць) нарадзілася актрыса тэатра і кіно Галіна Макарава. Сапраўднае імя — Агата Чаховіч. Яе бацька, не прыняўшы савецкую ўладу, служыў у белагвардзейскай арміі Дзянікіна. Падчас навучання на актрысу Агата ўзяла іншае імя і прозвішча маці — Апанашчык, каб не быць звязанай з рэпрэсаваным бацькам. Усе старыя дакументы сям'я знішчыла. Потым актрыса вылічыла, што сапраўдны год яе нараджэння — 1916-ты. Дарэчы, паралельна з вучобай на актрысу яна цікавілася экстрэмальнымі відамі спорту і нават выйграла чэмпіянат БССР па мотакросе. Макарава — прозвішча ад першага мужа. Слава да яе прыйшла пасля фільма «Удовы». Іншыя кінастужкі: «Белыя росы», «Іван», «Восеньскія сны», «Альпійская балада», «Развітанне славянкі», «Час выбраў нас».

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**


Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17 347 52 81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №2081

Падпісана да друку 20.12.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.